




Кафернаум. У доме апостала Пятра.



Малітва каля Сцяны Плачу.



Назарэт. Базыліка Звеставання.



Бэтлеем. У гроце Нараджэння.

Ерузалем. Базыліка Святога Гробу. Ян Павел II цалуе камень, на якім ляжала цела Хрыста пасля зняцця з Крыжа.



Святая Імша ў капліцы Вячэрніка.





# Хроніка пілігрымкі Папы Яна Паўла II у Святую Зямлю

## (20.03. – 26.03.2000г.)



**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ**

**20 сакавіка Ян Павел II прыбыў у Іарданію.** У аэрапорце ў Амане яго прывітаў кароль Абдулах II. Пасля гэтага Папа накіраваўся на Гару Нэбо, адкуль Майсей глядзеў на Абяцаную Зямлю. На гары Ян Павел II наведаў францішканскі кляштар, а потым маліўся ў адзіноце на тэрасе, на якой стаіць Майсеевы знак – медны вуж на пáлі. Вечарам Святы Айцец склаў візіт Абдулаху II у яго рэзідэнцыі ў Амане.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ**

**Раніцаю Ян Павел II цэлебраваў Св. Імшу ў грэка-мельхіцкім абрадзе** на стадыёне імя караля Хусэйна ў Амане. Потым сустрэўся з лацінскім патрыярхам Ерузалема Міхэлем Сабахам і каталіцкімі біскупамі Іарданіі, а потым накіраваўся ў Вадзі аль-Харар у Даліну Іардана: паводле традыцыі – гэта месца хросту Езуса. Адправіў там набажэнства Слова Божага, у кароткім казанні аддаў пашану Святой Тройцы і прывітаў членаў усіх супольнасцяў і хрысціянскіх Касцёлаў, прысутных на гэтай зямлі. Пасля абеду папскі самалёт прызямліўся ў аэрапорце Бэн Гурыёна ў Тэль-Авіве (Папу віталі прэзідэнт Ізраіля Эзэр Вэйцман і прэм'ер Эхуд Барак, а таксама галоўныя рабіны Ізраіля: сефардзійскі – Бакшы Дарон і ашкеназійскі – Мэір Лау, а таксама мусульманскія духоўныя асобы), адтуль Папа верталётам адляцеў у Ерузалем, дзе пасяліўся ў апостальскай нунцыятуры на Аліўнай Гары.

**ТРЭЦІ ДЗЕНЬ**

**Па дарозе ў Бэтлеем Ян Павел II ненадоўга затрымаўся на заходнім беразе Іардана,** молячыся ў аль-Магтас, недалёка ад Ерыхона.

*"Бэтлеем – гэта сэрца маёй Юбілейнай пілігрымкі"*, – сказаў Ян Павел II у часе гаміліі падчас Св. Імшы ў гэтым горадзе. У літургіі ўдзельнічала некалькі тысяч людзей, у тым ліку – Ясір Арафат. Пасля Св. Імшы, у часе якой Ян Павел II звярнуўся да хрысціянаў у Святой Зямлі з заклікам падтрымаць хрысціянскую спадчыну. Папа наведаў Грот Нараджэння ў бэтлеемскай базыліцы Нараджэння.

**У ходзе візіта ў лагер палестынскіх бежанцаў у Дэхэіша Папа запэўніў іх у падтрымцы каталіцкага Касцёла.** Ён, між іншым, сказаў: *"На працягу ўсяго майго пантыфікату я адчуваў сябе блізкім палестынскаму народу ў яго цярпеннях"*. Падчас сустрэчы ў рэзідэнцыі Ясіра Арафата Ян Павел II быў узнагароджаны найвышэйшым палестынскім ордэнам за выключныя заслугі на карысць палестынскага народа і клопат пра справядлівасць.

**ЧАЦВЁРТЫ ДЗЕНЬ**

**Ян Павел II прыехаў у Ерузалем.** Раніцаю, з удзелам невялікай колькасці людзей, адправіў Св. Імшу ў капліцы Вячэрніка. На заканчэнне падпісаў Ліст да святароў на Вялікі Чацвер. Перад абедам сустрэўся з галоўнымі рабінамі Ізраіля (*"Мы верым, што габрэйскі народ прызнае, што Касцёл поўнасцю асуджае антысемітызм і ўсялякія формы расізму як цалкам супярэчныя прынцыпам хрысціянства,"* – сказаў Папа), а потым накіраваўся на сустрэчу з прэзідэнтам Вэйцманам.

*"Як біскуп Рыма і паслядоўнік апостала Пятра запэўніваю габрэйскі народ, што каталіцкі Касцёл, кіруючыся евангельскімі прынцыпамі праўды і любові, а не палітычнымі поглядамі, глыбока засмучаны з прычыны нянавісці, пераследу і праяваў антысемітызму, скіраваных супраць габрэяў з боку хрысціянаў у якім бы то ні было*

*часе і месцы”,* – сказаў Ян Павел II у Інстытуце Памяці Яд Вашэм, аддаючы пашану ахвярам Халакосту. “Дзве тысячы гадоў мы чакалі гэтага моманту”, – зазначыў галоўны рабін Ерузалема Саламон Гольд.

**У папскім Інстытуце Нотр-Дам у Ерузалеме адбылася міжрэлігійная сустрэча** з удзелам Яна Паўла II, а таксама найвышэйшых прадстаўнікоў каталіцкага Касцёла заходняга і ўсходніх абрадаў, іншых хрысціянскіх веравызнанняў, а таксама прадстаўнікоў юдаізму і ісламу. *“Клопат пра справядлівасць і мір – адна з асноўных складовых частак рэлігійнага жыцця, а не штосьці, што стаіць па-за рэлігіяй”,* – сказаў Ян Павел II падчас гэтай сустрэчы.

### ПЯТЫ ДЗЕНЬ

**100 тыс. маладых з усяго свету ўдзельнічала ў Эўхарыстыі, якую цэлебраваў Ян Павел II у Каразіме,** дзе Хрыстус прамаўляў Пропаведзь на Гары. *“Быць добрымі хрысціянамі можа здавацца вам чымсьці непасільным у сённяшнім свеце. Але Езус не глядзіць раўнадушна і не пакідае вас адных перад гэтым выклікам. Ён заўсёды з вамі, каб перамяняць вашу слабасць у сілу”,* – сказаў Папа ў гаміліі.

**Абед з прэм’ерам Эхудам Баракам** у кляштары на Гары Благаславенняў, а потым наведванне касцёлаў: Размнажэння Хлеба і Прымату Пятра ў Табгха, а таксама санктуарыя ў Доме св. Пятра ў Кафернауме – гэта чарговыя пункты побыту Папы ў Святой Зямлі.

### ШОСТЫ ДЗЕНЬ

**Біскуп Рыма гасцяваў у Назарэце.** Пасля прыезда ў базыліку Звеставання Папа накіраваўся ў Грот пад прэзбітэрыем, дзе, згодна з традыцыяй, адбылася сцэна Звеставання Марыі, і маліўся там некалькі хвілін. На алтары ў Гроце ён паклаў Залатую Ружу – дар, якім ушаноўваюцца толькі найвялікшыя хрысціянскія санктуарыі. Затым ён цэлебраваў у базыліцы Св. Імшу, у часе якой аддаў у апеку Марыі сем’і ўсяго свету.

**Пасля абеду Ян Павел II наведаў базыліку Смерці** ў Гэфсіманскім Садзе ў Ерузалеме, дзе маліўся перад Скалою Смерці.

У рэзідэнцыі Апостальскай Дэлігатуры ў Ерузалеме Ян Павел II сустрэўся з генеральнымі консуламі, якія нясуць дыпламатычную службу ў гэтым горадзе.

*“Толькі паяднаныя паміж сабою хрысціяне могуць унесці поўны ўклад дзеля таго, каб Ерузалем стаў Горадам Міру для ўсіх народаў”* – сказаў Ян Павел II на экуменічнай сустрэчы ў сядзібе грэцкага праваслаўнага патрыярхату Ерузалема. На ёй прысутнічаў патрыярх Дзіадорас І, патрыярх армянскай апостальскай Царквы, арцыбіскуп Тарком Манугян, а таксама прадстаўнікі іншых праваслаўных Цэркваў і пратэстанцкіх супольнасцяў.

### СЁМЫ ДЗЕНЬ

**Раніцу Ян Павел II правёў на Узгор’і Святыняў у Ерузалеме, дзе сустрэўся з вялікім муфціем Ерузалема** шэйхам Ікрымам Сабрым, а таксама з высокімі духоўнымі мусульманскімі асобамі ў Святой Зямлі.

**Ян Павел II маліўся пры Сцяне Плачу** – ацалелым фрагменце святыні Саламона. Згодна з габрэйскім звычаем ён уклаў у шчыліну ў сцяне картку з малітваю. Гэта быў тэкст, што датычыў габрэяў, з пакутнай літургіі 12 сакавіка гэтага года, з літургіі, якая была просьбаю Касцёла аб прабачэнні за правіны яго дзяцей.

**Не запланаваная спачатку, адбылася сустрэча Папы з армянскім патрыярхам Ерузалема** абп. Таркомам Манугянам.

У базыліцы Гробу Панскага Ян Павел II цэлебраваў апошнюю ў гэтай пілігрымцы Св. Імшу.

**З патрыярхамі і каталіцкімі біскупамі Ян Павел II сустрэўся ў сядзібе лацінскага патрыярхату Ерузалема.** Пасля гэтай сустрэчы Папа зноў вярнуўся памаліцца да Гробу Панскага.

Вечарам Ян Павел II верталётам вылецеў з Ерузалема ў Тэль-Авіў і адтуль – самалётам у Рым.

*Ерузалем. Базыліка Святога Гробу, алтар на Кальварыі.*





# Пілігрымка з Папам Янам Паўлам II у Святую Зямлю

Добра, што ў Гародні можна глядзець па тэлевізары першую праграму польскага тэлебачання: мы мелі магчымасць удзельнічаць у пілігрымцы Святога Айца, так бы мовіць, віртуальна. Івона Шымала — мая любімая вядучая — каментавала тыя трансляцыі. Ёй дапамагаў журналіст, які перад гэтым шмат часу правёў у Святой Зямлі, рабіў там фільмы і маліўся.

Узброены Божай воляй і Божым словам, наш Папа выбраўся ў самую важную сваю пілігрымку, у Дарогу, па якой хадзіў наш Пан Езус Хрыстус.

Езус хадзіў пешкі.

Папа ляціць, пералятае з месца на месца на вайсковым верталёце. Трэба пражыць за тыдзень Нараджэнне, Жыццё і Смерць Езуса Хрыста. Гэта тыдзень паяднання з цэлым светам. Тыдзень, у які ўсе, хто хацеў, зразумелі, што Час не мае значэння: Мінулае, Сучаснае і Будучыня — гэта Эўхарыстыя. Папа Ян Павел II паказвае нам Дарогу Хрыста ў Вечнасць, Дарогу Збаўлення.

Дзіўна, які дужы Наступнік святога Пятра, наш сучаснік, наш духоўны кіраўнік.

Дні — насычаныя малітвай і працай.

Гэтак шмат людзей прагнуць яго ўвагі, яго цяпла і дзеляцца з ім любоўю. Сотні тысяч кожны дзень.

Святая Імша на стадыёне ў Амане. Прыгожая музыка ўсходніх каталіцкіх касцёлаў. Мудрая прамова лацінскага патрыярха Міхаэля Сабаха. Але галоўнае — слова Яна Паўла II. Гэта Ён гаворыць аб двух тысячагоддзях, спрасаваных у адну малітву, гаворыць аб паяднанні ў Богу ўсяго чалавецтва ва ўсёй часавай прасторы.

У Бэтлееме — Святая Імша перад базылікаю Нараджэння. Усхваляваны Ясір Арафат вітае Папу. Ягоны твар праменіцца радасцю, і ён не хавае гэтага. Імша адбываецца пад голым небам. Перад ахвяраваннем, зусім нечакана, цішыню парушае спеў муэдзына з бліжняй мячэці. І гэта — своеасаблівы напамінак пра тое, якая незвычайная гэтая зямля, дзе жывуць побач, суіснуюць хрысціяне, мусульмане, юдэі...

На рацэ Іардан. Папа глядзіць з акна верталёта, і мы бачым вялікі адрэзак ракі між хвалістымі пагоркамі, яна пятляе між пяскоў, як наш Дняпро. Вада ў рацэ зялёная, як у Нёмане.

25 сакавіка. Звеставанне. І набажэнства адбываецца на тым месцы, дзе ўсё адбылося, — у Назарэце, у базыліцы Звеставання, там, дзе, згодна з традыцыяй, Арханёл Габрыэль перадаў Марыі Божае Слова, якое стала целам.

Зноў над ракой Іардан, дзе Езус быў ахрышчаны Янам Хрысціцелем. Як хадзіў наш Збаўца па гэтых пясчаных пагорках?! Як хаваўся ад перагрэву?! Чалавеку тут няма дзе схавацца. Бога аберагае Бог.

У Ерузалеме на Пляцы каля Сцяны Плачу. Уражанне такое, што Папа цяпер бачыць толькі Бога, раіцца перад адказным крокам. Устае. Падыходзіць да Сцяны. У руках — лісток з Малітвай Прабачэння. Ён чытае 122 псальм і просіць габрэяў прабачыць хрысціянам за ўчыненыя крыўды. На працягу ўсяе гісторыі Касцёла — падзея, якой няма роўных.

Колькі трэба мець сілы, каб сказаць гэтыя словы, каб узяць цяжар адказнасці за ўсіх грэшных на сябе!

Папа кладзе картку з малітваю ў нішу Сцяны Плачу, дакранаецца леваю рукою да Сцяны.

Імша ў базыліцы Святога Гробу ў Ерузалеме — апошняя ў гэтай пілігрымцы. Хрысціяне, мусульмане, юдэі... Людзі розных колераў скуры і розных веравызнанняў, паяднаныя малітваю, паяднаныя асобаю Наступніка святога Пятра.

Ян Павел II два разы наведаў базыліку Святога Гробу. Я плачу, калі ён кленчыць перад Гробам, калі ціха, засяроджана моліцца, а потым цалуе пліту, на якой ляжала цела Збаўцы, знятае з Крыжа...

У гэтыя дні дзесьці ў свеце па-ранейшаму ішлі крывавыя войны, жахлівыя "зачысткі" пасёлкаў з дзецьмі і старымі, тварыліся злачынствы, але мільёны людзей свету, таксама як і мы ў Гродне, падарожнічалі разам са Святым Айцом па Святой Зямлі. Слухалі яго, глядзелі і спасцігалі тое найважнейшае, дзеля чаго чалавек прыходзіць на свет. Бо Папа паказвае Дарогу Праўды тым, хто хоча і мае сілы ісці па гэтай Дарозе нашага Збаўцы, па Дарозе паяднання, любові і міру. Яго прыгорбленая ад цяжару людскіх правінаў постаць з посахам пілігрыма сведчыць пра тое, якім можа быць дужым чалавек, узмоцнены Божаю Праўдаю...

Нам, з беднага Краю, лёгка ісці за ім па містычнай дарозе. Мы пабылі на Святой Зямлі віртуальна. Пахадзіць пешкі па слядах Езуса Хрыста і дакрануцца зрокам да тых краявідаў наўрад ці зможам. Але ў святой малітве мы бываем там штодзённа, заўсёды. І таму мы — шчаслівыя.

*Данута БІЧЭЛЬ.*



*"У першы ж дзень тыдня Марыя Магдалена прыходзіць раніцай да грабніцы і бачыць, што камень ад грабніцы адвалены" (Ян 20, 1).*

# Велікодная раніца

У Велікодную раніцу ўсё пачынаецца з гэтага ўбачанага не на сваім месцы каменя. Нечаканае і зусім неспадзяванае здарэнне. Яно змяняе ўсё навокал. Калі нават камень, якім быў прывалены гроб, ляжыць не на сваім месцы, то ўжо нічога не застаецца на сваім месцы.

Ані смерць, ані жыццё ўжо зусім не тыя, якімі былі да гэтага часу. Кожны, каго мы бачым у гэтую раніцу, – зусім не той, што быў раней. І мы самі ўжо абсалютна іншыя. У Велікодную раніцу ўсё змяняецца: звычкі, традыцыі, законы, патрэбы – усё!

Калі магільны камень адсунуты са свайго месца, калі нават Памерлы не ляжыць там, куды Яго паклалі, калі Марыі Магдалене здаецца, што яна двойчы страціла (Жывога і Памерлага), Таго, каго любіла, адзінае, што нам застаецца, – гэта страціць галаву.

Магдалена траціць галаву. Яна ўжо не ідзе паволі ад грабніцы, гэтак, як ішла да яе. Яна – першая сведка незвычайнай падзеі – імкліва бяжыць. Яе ўзрушанасць перадаецца іншым. Усе пачынаюць бегчы, здзіўляцца, перапытваць...

Так у Велікодную раніцу мы кіруемся на сустрэчу з Уваскрослым Езусам... бягом! І ў гэтым імклівым бегу, у гэтай радаснай нецярплівасці – светлы, асаблівы настрой Вялікадня. Ён змяняе ўсё вакол нас і ў нас саміх. Мы самі выходзім на свет Божы з нашых уласных трунаў, з трунаў нашых грахоў, старых звычак, старога, закаранелага страху, апатыі, абыякавасці і раздражнёнасці – да новага жыцця. "*Калі разам з Хрыстом уваскрэслі... Імкніцеся да таго, што горняе, а не да таго, што зямное*", – нагадвае святы Павел, звяртаючыся да Каласянаў. Нагадвае таксама і ўсім нам.

Калі быць хрысціянінам і верыць азначае веру ў Змёртвыхпаўстанне Хрыста, то гэта азначае таксама згоду на ўласнае змёртвыхпаўстанне, азначае вызваленне ад нашага ўласнага эгаізму, уласных інтарэсаў, дробязнасці, азначае ўзвышэнне, узрастанне да дабрыні, любові і прабачэння...

Можа, менавіта ў тым і ёсць парадокс Вялікадня, што мы знаходзім як бы тыя самыя рэчы, што й раней, але ўжо зусім новымі, "іншымі".

І яшчэ адзін надзвычай важны момант нашага ўласнага перажывання Вялікадня: мы самі павінны зрабіць усё, каб Хрыстус змёртвыхпаўстаў. Нам трэба вывесці Яго з гробу, у які мы Яго палажылі. Нам трэба вызваліць Яго з вэлюма нашага недавеpу, прымхаў, нашых крыўдаў, нашых расчараванняў і незадаволенасці. Нам трэба ачысціць Яго вобраз ад нашых уласных скажоных уяўленняў, якія дэфармавалі Яго аблічча. Нам трэба дазволіць Яму разбіць нікчэмныя схемы, якімі мы Яго абмыталі...

Ці здольныя мы даць магчымасць гэтаму Богу нанова стацца Богам у нашых сэрцах?

Ці можам мы дазволіць Яму, каб Ён аб'явіўся не такім, як мы таго прагнем, але такім, якім Ён ёсць на самай справе?

Ці хочам мы даць Яму волю, каб Ён рабіў не тое, што мы пастанавілі, і што, часцей за ўсё, мы самі здольныя зрабіць, але тое, "немагчымае", што толькі Яму пад сілу?

Ці згодзімся мы, каб Ён аб'явіўся лепшым, чым мы прывыклі Яго апісваць, больш чулы, чым мы здольныя Яго ўявіць?

Ці згодзімся мы, каб Ён падараваў нам надзею, спакой, новую якасць, шырыню і радасць жыцця, якіх мы нават не можам сабе ўявіць?

А можа Вялікдзень – гэта таксама своеасаблівае нечаканае адкрыццё, што Бог не церпіць гробу, у які мы Яго ўклалі, вязніцы (бясконцага мноства вязніцаў), у якую мы Яго затачылі.

Абшукайма гэты гроб, але не дзеля таго, каб Яго знайсці, а каб шчасліва ўпэўніцца, што Яго ўжо там няма.

І, бегучы за Ім у велікодным ранішнім святле, знойдзем адвагу ціха прамовіць: "Мой Божа, як жа я Цябе зменшыў...". Дадзім жа месца велікоднай радасці ў сваіх сэрцах, зусім новай, іншай, ніколі яшчэ нязведанай, той, якая сведчыць, што Хрыстус змёртвыхпаўстаў. Сапраўды змёртвыхпаўстаў!

*Паводле*
*Алясандро Пранцато*



***Вялікдзень***
***2000 Юбілейны год***
***Магілёў***

Умілаваныя!

Мы перажываем 40-дзённы шлях у пустыні Вялікага Посту. Часцей набліжаемся да церпячага Хрыста падчас Крыжовай дарогі. Дзякуем Хрысту Пану за Яго бясконцую любоў да нас. Адмаўляемся ад забаваў. Больш сочым за культураю слова і ўчынкаў у сваёй сям'і і на працы. Мы аднаўляемся ўнутрана.

Аднаўляецца і адраджаецца ўвесь Касцёл, асабліва на Беларусі. З'явіліся новыя біскупы, з'явілася новая дыяцэзія ў Віцебску.

Ужо два месяцы як я прыняў новую парафію ў Магілёве і клопат аб усім дэканаце, які ўзначальваў кс. Уладзіслаў Блін – цяпер Віцебскі біскуп. Уступаючы ў абавязкі пробашча, я хачу прадаўжаць справу, распачатую маім папярэднікам.

Юбілейны Год з'яўляецца незвычайным і багатым на Дары Божай Міласэрнасці ў Святых Сакрамэнтах і адпустах, якія можна атрымаць у нашай магілёўскай катэдры, выконваючы акрэсленыя Касцёлам умовы (наведванне касцёла, удзел у Святой Імшы, прыманне Святой Камуніі, якой папярэднічае споведзь, а таксама малітва ў інтэнцыі Святога Айца). І мы, святары, дапамагаем у гэтым вернікам. Мы хочам сэрцам ахапіць усіх людзей у парафіі і дэканаце. Аднак нас яшчэ мала. "Жніво вялікае, але работнікаў мала". Таму заахвочваю вас да малітвы на каленях і веру, што Пан пашле новых работнікаў, што з нашых парафіяў пакліча шмат велікадушных хлопцаў да святарства і дзяўчат да службы Касцёлу на беларускай зямлі, асвечанай крывёю стольніх ахвяраў, лепшых сыноў Касцёла і Айчыны.

Надыходзіць вясна – надзея адраджэння жыцця, пацверджанага Змёртвыхпаўстаннем Хрыста. Ён сваёю смерцю адрадзіў нас да свабоды, вызваліў з граху і вярнуў права на вечнае жыццё ў небе.

З гэтай радаснай прычыны жадаю ўсім, каб моц Уваскрослага Хрыста напоўніла сэрцы вераю і надзеяй, а любоў заўсёды жыла ў вашых сем'ях. Бо толькі тады мы зможам далучыць свае сэрцы да Божай хвалы і спяваць раднасае Алелюя!

Радуймася, браты, бо Пан Уваскрос! Алелюя! Радуймася, бо Ён сапраўды Уваскрос! Алелюя!

*З сардэчным святочным віншаваннем*
*пробашч магілёўскай катэдры,*
*кс. дзекан Раман Факсінскі*

# Дзень Прабачэння



**12 сакавіка, першая нядзеля Вялікага Посту Юбілейнага Года. У базыліцы св. Пятра Папа і кіраўнікі ватыканскіх дыкастэрый просяць аб прабачэнні "за мінулыя і сённяшнія грахі сыноў Касцёла". Ян Павел II абдымае прынесены з касцёла Сан Марчэло аль Корсо юбілейны крыж і цалуе яго.**

Бачачы ўсё гэта, мы адчувалі, што з'яўляемся сведкамі падзеі, якая сімвалічна адлюстроўвае ўвесь пантыфікат. Ян Павел II увойдзе ў гісторыю таксама, калі не перш за ўсё, як Папа "Дня прабачэння".

Калісьці ў далекай будучыні, калі ўсе забудуць пра марксізм і ленінізм, Яна Паўла II будуць успамінаць дзякуючы гэтай падзеі. Безумоўна, ён адыграў вырашальную ролю ў падзенні камунізму. Безумоўна, ён змагаўся за правы чалавека і рабіў гэта ў маштабе ўсёй планеты. Безумоўна, ён умеў закрануць сваім словам моладзь. Некаторыя з тых справаў ён, несумненна, распачынаў і рэалізоўваў з большаю эфектыўнасцю і запалам, чым ягоныя папярэднікі, але ў гэту эпоху была менавіта такая дзейнасць усіх папаў. Інакш выглядае справа з "Днём прабачэння" – гэта ўласная і цалкам арыгінальная справа Яна Паўла II.

Тут не ідзе гаворка толькі пра юбілейнае спатканне, якое павінна было б вызначаць характар гэтага Юбілею, тут гаворка пра момант, у якім евангельскі стрыжань прысутны ва ўсім прадказанні Яна Паўла II, знайшоў поўнае выяўленне і набыў універсальнае значэнне.

Праз "евангельскі стрыжань" я разумею стрыжань яго прадказання, у якім ён выкарыстоўваў радыкалізм Евангельскіх запаведзяў і, прачытваючы яго ў духу *Vaticanum II*, паказваў ягоную актуальнасць таксама ў сітуацыях сучасных міжнародных канфліктаў паміж народамі. Вынікам гэтага было сказанае свету, а таксама Касцёлу абсалютнае "не" кожнай вайне і кожнаму насіллю, вынікам гэтага была абарона чалавечага жыцця аж да скасавання смяротнай кары, пошук поўнага братэрства не толькі паміж хрысціянамі, але таксама "братэрства ў Абрагаме" з габрэямі і мусульманамі, заклік да "ўзаемападпарадкавання" ў адносінах паміж мужчынам і жанчынаю замест абсалютнага падпарадкавання жанчыны мужчыну, пратэст супраць кожнага парушэння асноўных правоў асобнага чалавека і народаў, адназначная абарона справядлівасці (трэба прыгадаць заклік з нагоды Вялікаю Юбілею аб скасаванні даўгоў бедным краінам, а таксама аб урэгуляванні прававой сітуацыі нелегальных эмігрантаў у багатых краінах).

Вось сем евангельскіх каштоўнасцяў, абавязковых таксама ў гістарычнай ацэнцы паводзінаў сыноў Касцёла, на якіх была ўгрунтавана *mea kulpa*, сем відаў **вызнання грахоў** растлумачаных так, як папярэдне прадставіў іх журналістам біскуп Пьеро Марыні (падчас цырымоніі ў базыліцы выкарыстаны найбольш агульныя фармулёўкі, аднак сэнс і нават парадак выказаных там словаў ад гэтага тлумачэння не адыходзілі):

1) ачышчэнне памяці і станаўленне на шлях навяртання: у святле Евангелля трэба назваць нашы памылкі, нашы адыходы ад шляхоў Евангелля;
2) адмаўленне ад выкарыстання сілы дзеля абароны веры, якое ўключае ў сябе жаль за грахі рэлігійных войнаў, крыжовых паходаў, трыбуналаў інквізіцыі;
3) братэрскія адносіны з хрысціянамі ўсялякай дэнамінацыі – адсюль вынікае прызнанне віны за экскамунікі і пераследы, якія суправаджаліся падзеламі паміж Касцёламі;
4) называнне габрэяў "старэйшымі братамі", а значыць прызнанне ўчыненых грахоў у адносінах да народа Першага Запавету, да Ізраіля: пагарды, актаў варожасці, маўчання;
5) нагадванне аб правах народаў (віна навяртання з дапамогаю сілы);
6) прызнанне роўнай годнасці кожнага чалавека і прызнанне грахоў, учыненых супраць жанчынаў, расаў, народаў;
7) Абарона справядлівасці (віна ў адносінах да найменшых, убогіх, ненароджаных, да людзей вуліцы).

Пасля папскай гаміліі, прысвечанай просьбе аб прабачэнні і прабачэнню, настала Малітва вернікаў, якая цалебравалася гэтак, як у Вялікую Пятніцу. Чарговыя заклікі прамаўлялі кіраўнікі рымскіх дыкастэрый і іншыя вядомыя асобы Апостальскай Сталіцы... Пасля кожнага заклiку Папа чытаў малітву ў дадзенай інтэнцыі. На заканчэнне ён падышоў да крыжа, абняў яго і пацалаваў. Вялікае значэнне меў той факт, што просьбы аб прабачэнні разам з Папам прамаўлялі прадстаўнікі Рымскай курыі.

Пасля благаслаўлення на заканчэнне Св. Імшы Папа сказаў: "Няхай гэта літургія (...) абудзіць ва ўсім Касцёле і ў кожным з нас зацікаўленасць і вернасць заклiку Евангелля. (...) Ніколі не працівіцца любові ў імя служэння праўдзе; ніколі не павінна быць жэстаў супраць еднасці Касцёла; ніколі не абражаць чалавечай годнасці; ніколі не прыбягаць да логікі насілля; ніколі не дапускаць дыскрымінацыі, уціску і пагарды ў адносінах да убогіх і найменшых".

Евангельская матывацыя вызнання правінаў, *mea culpa* – шырока прадстаўлена ў "*Tertio millennio adveniente*" (1994) і ў буле "*Redemptionis mysterium*" (снежань 1998), якая абвяшчае Вялікі Юбілей, была пазначана ўжо ў дакуменце "*pro memoria*", які Папа даслаў кардыналам вясною 1994г. У ім першы раз з'явілася ідэя "*рахунку сумлення на канец тысячагоддзя*": "*Калі падыходзіць да канца другое тысячагоддзе хрысціянства, — чытаем у дакуменце, — трэба, каб Касцёл таксама па ўласнай ініцыятыве перагледзеў змрочныя аспекты сваёй гісторыі, ацэньваючы іх у святле евангельскіх прынцыпаў*".

Існуе больш за 100 тэкстаў, у якіх падчас свайго пантыфікату Ян Павел II гаварыў аб адыходзе хрысціянаў ад Евангелля: пачынаючы з "крыўды" ў адносінах да Галілея (лістапад 1979) – да вогнішча Джардана Бруна (люты 2000).

Што схіліла Папу ўчыніць акт "ачышчэння памяці"? Дакументы адназначна спасылаюцца на экуменічную, саборавую матывацыю і на ініцыятывы Паўла VI. Найбольш непасрэдным прэцэдэнтам тут з'яўляецца просьба Паўла VI аб прабачэнні, скіраваным да братоў, адлучаных у верасні 1963г., падчас адкрыцця другой сесіі Сабору. Але ёсць таксама асабістая інспірацыя, якая (я ў гэтым глыбока перакананы) вынікае з досведу падзелаў, названых Янам Паўлам II "грахом". "*Евангелле ўказвае ва ўсёй аголенасці наш грэх, які з пакорай вызнаем і які ляжыць у аснове крызісу, перажыванага Касцёлам у наш час*", — так гаварыў Папа "*пра грэх нашага падзелу*" ўдзельнікам пакутнай літургії (7 снежня 1991) у базыліцы св. Пятра падчас першага Еўрапейскага Сіноду.

Праз два гады ідэя прывяздзення Касцёла да эпахальнага рахунку сумлення была для Папы ясная: "*Несумненна, напрыканцы другога тысячагоддзя, трэба зрабіць рахунак сумлення: дзе мы знаходзімся, куды Хрыстус нас прывёў, дзе сышлі мы з дарогі Евангелля?*" – сказаў Ян Павел II у інтэрв'ю Ясю Гаўроньскаму ("La Stampa", 2 listopada 1993).

Папская ініцыятыва рахунку сумлення і просьбы аб прабачэнні маюць вялікае значэнне. Такім чынам Ян Павел II стварае новую апалагетыку, змяняе вобраз папства, карэктуе месца каталіцкага Касцёла ў сучаснай культурнай панараме. Гэтаму магло спрыяць яго польскае паходжанне, дзякуючы якому ён не быў гэтак, як папы-італьянцы, звязаны курыяльнаю традыцыяй.

І гэта вялікае шчасце, што евангельская ідэя "просьбы аб прабачэнні" выйшла ад Папы, якому ніхто не можа прыпісаць слабасці ці схільнасці да ўступак, а толькі вельмі вялікую сілу ўласных перакананняў і непахісную прывязанасць да каталіцкай сутнасці.

*Луіджы Акатолі,*
*"Tygodnik Powszechny" № 12 за 2000 г.*
*Пераклад рэд.*

*5 сакавіка 2000 года на плошчы святога Пятра ў Рыме адбылася ўрачыстая беатыфікацыя 11 сясцёр назарэтанак з Наваградка. Пра гэту падзею, а таксама пра падрыхтоўку беатыфікацыйнага працэсу расказвае* ***дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка.***

# ПРА ІХ ГЕРАІЗМ ДАВЕДАЎСЯ СВЕТ

## ПАМЯЦЬ

Пра расстрэл гітлераўцамі 11 сясцёр назарэтанак я чуў яшчэ малым хлопцам. Пра гэта расказваў пробашч з Дзераўной ксёндз Люцыян Хмялёвец. Ён паказваў таксама фатаграфію карціны Адама Стыка, якую мастак намаляваў адразу пасля вайны.


Сястра М. Стэла

Так склалася, што мой святарскі лёс з самага пачатку быў цесна звязаны з Навагрудкам. Памятаю, як у сярэдзіне чэрвеня 1984 г. я прыехаў туды па накіраванні генеральнага вікарыя Пінскай дыяцэзіі ксяндза Вацлава Пянткоўскага. На той час парафія ўжо больш за тры месяцы не мела святара. Ксёндз Войцех Навачак, які працаваў у Навагрудку 28 гадоў, памёр ва ўзросце 74-х гадоў 3 лютага 1984 года...


Сястра М. Імэльда

Спаткала мяне на плябаніі сястра Тэрэса (усе называлі яе сястра Сабіна), назарэтанка. Яна мела ключы ад касцёла, апекавалася ім, і тое, што было перададзена ксяндзом пробашчам, перадала мне. Яна не насіла манаскага габіту, бо ў тыя часы гэта яшчэ не дазвалялася. Такім чынам я ўпершыню сутыкнуўся з дзейнасцю сясцёр назарэтанак.

Сястра Сабіна паказала месца, дзе былі пахаваны астанкі сясцёр назарэтанак, расстраляных гітлераўцамі 1 жніўня 1943 года. Яна расказала таксама, што 19 сакавіка 1945 года яны былі перавезены з лесу, з месца расстрэлу, і перазахаваны каля навагрудскай фары.


Сястра М. Канізія

Я бачыў, што да магілкі сясцёр заўсёды вытаптана сцежка. Вельмі часта гарэлі свечкі, і амаль усю вясну, лета і восень стаялі пры крыжы кветкі. Магіла была абгароджаная.

Праз некаторы час разам з парафіянамі мы пайшлі ў лес на месца жудаснай трагедыі. Тады на гэтым месцы не было ніякага знаку. Парафіяне скардзіліся, што часта ставілі на тым месцы крыж, але ён знікаў, хтосьці яго свядома вырываў і выкідваў. Парафія яшчэ раз паставіла крыж. Да крыжа была прымацавана таблічка з надпісам на трох мовах: па-беларуску, папольску і па-руску. Надпіс сведчыў, што на гэтым месцы былі расстраляны 11 сясцёр назарэтанак.

З самага пачатку свае святарскай працы я сустракаўся з парафіянамі, якія памяталі расстраляных сясцёр. Было некалькі асобаў, што вучыліся ў парафіяльнай школцы, якую вялі сёстры назарэтанкі. Ад часу да часу з-за мяжы ў Навагрудак прыязджалі людзі, якія таксама распавядалі пра сваё знаёмства з сёстрамі. Многія памяталі іх як добразычлівых, чулых і вельмі сардэчных. Расказвалі пра іх працавітасць, шчырасць і пабожнасць. Сёстры цікавіліся справамі парафіянаў, а таксама не адзін раз дапамагалі ім у розных патрэбах. Парафіяне расказвалі таксама аб працы сясцёр у кляштары, аб кантактах з навагрудчанамі.


Кс. пралат Аляксандр Зянкевіч.


Сястра М. Малгажата

Я меў шчасце размаўляць з ксяндзом Вацлавам Пянткоўскім, які, хіба, з 1937 да 1938 года быў капеланам сясцёр назарэтанак і рэктарам фарнага касцёла. Ён таксама расказваў пра іх незвычайную сціпласць і пабожнасць. Кожны вечар сёстры маліліся разам з вернікамі ў касцёле. Асабліва запомнілася навагрудчанам і ксяндзу капелану, як зладжана і прыгожа спявалі сёстры маёвае набажэнства.

Я заўважыў, што ў фарным касцёле на галоўным і бочных алтарах заўсёды былі свежыя кветкі — ад ранняй вясны да позняй восені. Мне, маладому святару, не трэба было заахвочваць людзей да гэтага. Вернікі рэгулярна прыходзілі ў касцёл, каб прыбраць там і навесці парадак. Аказваецца, любоў да касцёла, да чысціні, а таксама да таго, каб алтары заўсёды патаналі ў жывых кветках, прывілі сёстры назарэтанкі, і гэта прыгожая традыцыя жыве там да сённяшняга дня...

## ПАЧАТАК

Увесь час памяць аб расстраляных сёстрах назарэтанках была жывая ў Навагрудку... Тагачасны апостальскі адміністратар Касцёла на Беларусі ксёндз біскуп Тадэвуш Кандрусевіч звярнуўся да кампетэнтных уладаў з просьбаю распачаць беатыфікацыйны працэс сясцёр назарэтанак.


Сястра М. Раймунда

І ў 1990 годзе распачаўся інфармацыйны працэс, які з'яўляецца часткаю беатыфікацыйнага працэсу. Збіраліся ўсе звесткі ад сведкаў, якія ведалі сясцёр, а таксама архіўныя матэрыялы. Памятаю, мы таксама прыязджалі ў Мінск, у архіў Вялікай Айчыннай вайны. Збіралі архіў у Баранавічах. Сёстры-назарэтанкі ва ўсім свеце таксама шукалі розныя матэрыялы, каб усебакова даведацца не толькі аб дзейнасці сясцёр, але таксама аб прычынах расстрэлу сясцёр назарэтанак.


Сястра М. Даніэла

Падчас гэтага інфармацыйнага працэсу восенню 1990 года была праведзена другая эксгумацыя. Астанкі сясцёр былі перанесены ў фарны касцёл. Я непасрэдна прысутнічаў пры эксгумацыі. Як пробашчу парафіі мне давялося вырашаць некаторыя пытанні, якія датычылі другой эксгумацыі, з уладамі горада і раёна. Дазвол быў атрыманы і для гэтага былі выдзелены адпаведныя службы. Памятаю, што таксама прысутнічалі сёстры назарэтанкі з Варшавы і Маці генеральная з Рыма, бо Генеральны Дом сясцёр назарэтанак знаходзіцца ў Вечным Горадзе. Памятаю, што сёстры прывезлі вельмі дакладны план знаходжання трунаў кожнай з пакутніцаў, які ў 1945 годзе склаў ксёндз Аляксандр Зянкевіч пры другім перазахаванні. У труны былі ўкладзены капсулы з імем і прозвішчам кожнай сястры.


Сястра М. Гвідона

Выкапалі дол больш за 2 метры, але ніяк не маглі натрапіць на труны. Думалі, што ўжо прайшоў час і нічога не засталося. Але раптам рыдлёўка ўперлася ў дошку... Аказваецца, захаванне каля фарнага касцёла было вельмі глыбокае, больш, чым на 2 метры.

Былі адчынены 11 трунаў. Астанкі склалі ў невялічкія трунэлькі і змясцілі ў капліцы Маці Божай...

На заканчэнне інфармацыйнага працэсу сабралася 6 вялікіх тамоў. Матэрыялы былі перададзеныя ў Рым.


Сястра М. Феліцыта

Усе 14 гадоў у Навагрудку я ба-

чыў, колькі людзей прыходзіла да магілы сясцёр, а потым у капліцу Маці Божай у фарным касцёле. Людзі маліліся і прасілі заступніцтва сясцёр у розных патрэбах: прасілі здароўя, прасілі ласкі навяртання для сваіх блізкіх. Вельмі-вельмі многа людзей прайшло праз навагрáдскую фару і вельмі многа людзей атрымала патрэбныя ласкі праз заступніцтва сясцёр назарэтанак.

Мы маем некалькі спісаных кніг, бо вялі дзённік, куды вернікі запісвалі свае словы падзякі. Гэта былі запісы людзей з нашай краіны і з самых розных куткоў свету на самых розных мовах. Запісы сведчаць, што пра сёстраў назарэтанак ведалі многія. Але шмат каму было незразумела, чаму сёстры загінулі. Яны былі невінаватыя, бо нічога нікому кепскага не зрабілі. У Навагрáдку іх усе паважалі. Адвеку тут жылі людзі розных веравызнанняў.

Навагрáдак у часе вайны сапраўды перажыў трагедыю. У самім горадзе былі расстраляны два ксяндзы і больш за 20 тысяч людзей у ваколіцах.

У 1942—1943 гг. распачаліся масавыя арышты заложнікаў, бо актывізавалася савецкая і польская "партызанка". Навагрáдчане ўспамінаюць, што адзін раз за якуюсьці партызанскую акцыю было арыштавана больш за 100 жыхароў, у асноўным прадстаўнікі інтэлігенцыі, бацькі сем'яў.

Сёстры па прыкладзе сястрынастаяцельніцы маліліся да Бога: "Божа, калі патрэбная такая ахвяра, прымі яе ад нас, свабодных ад сямейных абавязкаў, а няхай вернуцца да сваіх сем'яў бацькі, святары, урачы, настаўнікі, якія больш патрэбныя навагрáдскай супольнасці". Калі яны даведаліся аб тым, што немцы выдалі загад арыштаваць апошняга ксяндза Навагрáдка, сястра Стэла ўзнесла просьбу да Бога і яе малітву падтрымалі астатнія сёстры: "Божа, калі патрэбная такая ахвяра, то няхай застанецца ксёндз, а арыштуюць нас...". Вядома, што група заложнікаў, больш за 100 чалавек, была вызвалена: некаторых вывезлі на працы ў Германію, але яны засталіся жыць...



Сястра М. Геліядора



Сястра М. Барамэя



Сястра М. Канута



Сястра М. Сергія

31 ліпеня сясцёр назарэтанак выклікалі ў камісарыят і на наступны дзень на золку расстралялі ў лесе. Дванаццатая сястра, Малгажата, якая засталася па просьбе настаяцельніцы пільнаваць дом, пазбегла расстрэлу. Яна выжыла. Менавіта яна знайшла месца расстрэлу і пазначыла яго, а пасля вайны разам з ксяндзом Аляксандрам Зянкевічам прыкладала намаганні, каб перазахаваць сясцёр пры касцёле. Да 1966 года сястра Малгажата апекавалася фарным касцёлам. Дзякуючы ёй і парафіянам касцёл дзейнічаў на працягу ўсіх пасляваенных гадоў. Сястра Малгажата памерла ў 1966 г. і пахавана на навагрáдскіх могілках.

...Якая ж вялікая была нашая радасць, калі ў мінулым, 1999 годзе, Святы Айцец прызначыў дзень беатыфікацыі сястры Стэлы і 10 яе сяброўак на 5 сакавіка 2000 года. Радасць — не толькі для навагрáдскай парафіі, для тых, хто ведаў сясцёр назарэтанак, для тых, хто прыклаў намаганні дзеля таго, каб пакутніцы былі вынесеныя на алтар, але таксама для ўсяе Гродзенскай дыяцэзіі, для ўсяго каталіцкага Касцёла, які адраджаецца ў нашай краіне. Скажу больш, беатыфікацыя 11 сясцёр назарэтанак напоўніла радасцю і вернікаў з іншых гарадоў і краінаў, бо ў Навагрáдак некаторыя сёстры прыехалі з Львоўшчыны, з Віленшчыны, з Польшчы...

Да ўрачыстасці беатыфікацыі рыхтавалася супольнасць сясцёр назарэтанак ва ўсім свеце. Больш за 2 000 сясцёр працуе ў 20 краінах свету. Таксама і ў нас, на Беларусі, ёсць некалькі дамоў сясцёр назарэтанак. У Навагрáдку — у тым ліку.

Хачу вярнуцца крыху назад і расказаць пра тыя два будынкі, у якіх да вайны жылі сёстры назарэтанкі, пра кляштар і школу, дзе яны вучылі навагрáдскіх дзетак.

Заканчэнне на с. 27.







Кс. Эдвард СТАНЕК

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## СЁМАЯ ЗАПАВЕДЗЬ

### Не крадзі

**Прыватная ўласнасць**

(...) Правільнае зразуменне сёмай запаведзі залежыць ад усведамлення вельмі важнай ісціны: усе матэрыяльныя багацці прызначаныя Богам для ўсіх людзей. Кожны чалавек мае на іх права. Часовыя багацці маюць агульны характар. Сонца свеціць для ўсіх, зямля родзіць хлеб для ўсіх, вада — таксама для ўсіх. Кожны чалавек — як дзіця ў вялікай Божай сям'і — мае права на тое, што з'яўляецца ўласнасцю Бога — ягонага Айца. Бог — адзіны паўнапраўны ўладальнік усіх створаных багаццяў. Чалавек толькі на нейкі час атрымлівае пэўныя багацці ва ўласнае распараджэнне і раней ці пазней павінен усе іх вярнуць. Ніхто з нас не мае часовых рэчаў назаўсёды, навечна. Пэўны час яны знаходзяцца ў нашых руках, але нават тады, калі з'яўляюцца нашаю ўласнасцю, надалей маюць агульны характар. Маю на іх права не толькі я, але ў пэўных сітуацыях і іншыя людзі.

Пры такім падыходзе ўзнікае сёння шэраг надзвычай цяжкіх пытанняў, на якія мы не заўсёды ўмеем знайсці адказы. Гаворка тут ідзе пра пытанні, якія ўзнікаюць, калі мы супастаўляем людзей, што паміраюць штогод мільёнамі з голаду, з тымі, якія хварэюць і паміраюць ад пераядання. Яшчэ больш цяжкія пытанні датычаць краінаў перанаселеных. Ёсць дзяржавы, у якіх на адзін квадратны кіламетр прыпадае дзвесце чалавек і ёсць краіны, дзе на адзін квадратны кіламетр прыпадае адзін чалавек. Калі мы ўсё разглядаем з Божага пункту погляду і ўяўляем Зямлю адзіным вялікім домам, то чаму дзеці таго самага айца павінны цясніцца ў адным пакойчыку, калі ў суседнім, за сцяною, ёсць гэтулькі месца. Паўтараю, гэта цяжкія пытанні, звязаныя з сёмаю запаведдзю, пытанні, з якімі змагаецца сёння Касцёл і цэлы свет.

Хтосьці скажа: "Гэта праўда, што зямля — уласнасць Бога, але жаданне замяніць яе ў дом, населены любячаю сям'ёю — навука не з гэтага свету". І слушна: сапраўды, навука не з гэтага свету, бо гэта аб'яўленая навука, але яна ўказвае адзіны шлях для дасягнення спакою на свеце. Прычынаю ўсіх дыскусій пра мір з'яўляецца парушэнне альбо захаванне сёмай запаведзі.

У межах агульнага права на ўсе багацці, якія выйшлі з рук Бога, трэба звярнуць увагу таксама на вызначанае воляю Божаю права на прыватную ўласнасць. Кожнаму чалавеку для захавання свабоды, незалежнасці і годнасці патрэбна матэрыяльнае багацце для яго і для ягонай сям'і. Кожны мае права на свой уласны свет, які стварае ягоны дом, пэўная сума грошай, убранне, ежа. Кожны мае права на гэта.

Бо калі б чалавек быў пазбаўлены гэтых неабходных сродкаў для жыцця, трапіў бы ў залежнасць ад іншых людзей, становячыся іхнім нявольнікам.

Хачу звярнуць увагу на дзве крайнасці. Калі хтосьці збярэ вялікае багацце, то становіцца яго нявольнікам і пачынае баяцца, каб гэтага ў яго хтосьці не адабраў. Калі чалавек зробіць мэтаю жыцця памнажэнне сваіх багаццяў, ён становіцца нявольнікам таго, што мае. Гэта адна крайнасць. Другая крайнасць — беднасць. Бедны чалавек становіцца нявольнікам іншых людзей. Каб жыць, ён павінен прадаваць сябе. Ён не мае свабоды, губляе сваю годнасць. Бог перасцерагае перад гэтымі крайнасцямі і паказвае іншы шлях, шлях прыватнай уласнасці, якая дае усё неабходнае для нармальнага жыцця, для гарантаванасці свабоды і годнасці чалавека.

Што датычыць спосабаў набыцця ўласнасці, то першы з іх заключаецца ва ўзяцці нічыйных рэчаў. Напрыклад, збіранне грыбоў у лесе. Грыбы — гэта нічыйная ўласнасць. Яны належаць таму, хто іх знойдзе. Гэтаксама і маліны ў лесе. Але калі маліны растуць у садзе, то гэта ўжо прыватная ўласнасць, яны маюць свайго ўладальніка, і мы не маем на іх права.

Другім сродкам здабыць права ўласнасці ёсць праца. Плён працы належыць таму, хто працуе. Гэтага вымагае справядлівасць. Плён нашай працы — гэта наша ўласнасць. Зразумела, гэта можа быць плён, непасрэдна аддадзены ў рукі, альбо заменены справядліваю аплатаю.

Трэці сродак для набыцця ўласнасці — атрыманне спадчыны альбо дару. Калі хтосьці мне штосьці дае, то тады я станаўлюся ўладальнікам гэтай рэчы. І, нарэшце, абмен альбо купля; чаго тлумачыць не трэба.

Сёмая запаведзь кажа: "не крадзі", гэта значыць, не прысвойвай таго, што з'яўляецца чужою ўласнасцю. Ці існуюць сітуацыі, у якіх чалавек можа забраць у кагосьці якуюсьці рэч, парушаючы яго права на ўласнасць? Такая сітуацыя існуе і датычыць сродкаў, неабходных для жыцця, найчасцей хлеба і вады. Калі чалавеку пагражае галодная смерць, ён мае права ўзяць ў іншага штосьці з ежы, калі той мае больш, чым яму неабходна. Аднак нельга забіраць у чалавека апошняй крошкі, бо нельга ратаваць уласнае жыццё за кошт жыцця іншага. Калі гэты іншы мае шмат, то я магу ўзяць для сябе і для кагосьці, хто памірае з голаду побач са мною. Гэта не крадзеж. Права ўзяць вынікае з агульнасці ўсіх багаццяў, якія паходзяць з рукі Пана Бога. Аднак нельга браць, калі хтосьці трэці быў бы абвінавачаны ў крадзяжы і быў бы за гэта пакараны. Трэба ўлічваць не толькі абставіны, але таксама любоў да бліжняга.

**Грамадская ўласнасць**

З мэтаю зразумення Божага наказу "не крадзі" я ўжо звярнуў увагу на права на прыватную ўласнасць. Сёмая запаведзь стаіць на варце гэтага права, якое гарантуе свабоду і годнасць асобы. Апроч крайняй неабходнасці, гэта значыць, небяспекі смерці, нельга парушаць гэтага права ні ў якім іншым выпадку. Неяк пасля казання ў мяне запыталі, ці ўлічвае дзяржаўнае заканадаўства сітуацыю крайняй неабходнасці. Я не з'яўляюся ані юрыстам, ані спецыялістам у галіне грамадзянскага заканадаўства. З размоваў з юрыстамі я зрабіў выснову, што гэта складаная справа. У прынцыпе яны прызналі, што калі нават грамадзянскае заканадаўства не ўлічвае сітуацыі крайняй неабходнасці, то напэўна змяншае велічыню пакарання. Тым не менш, зададзенае пытанне мае больш глыбокі сэнс, і я хачу звярнуць на гэта ўвагу. Прашу заўсёды памятаць пра адрозненне паміж Божымі законамі і законамі чалавечымі. Пры алтары святар тлумачыць Божыя законы, а не дзяржаўныя. Такім чынам, калі мы апынемся побач з чалавекам, які памірае з голаду, і возьмем у іншых жменю крупы, ратуючы яго ад смерці, то не толькі не ўчынім крадзяжу, але зробім добры ўчынак. Бог нас за гэта не пакарае, а ўзнагародзіць. Так выглядае справа з пункту погляду Божага права, з пункту погляду сумлення. Але калі ўладальнік гэтай крупы абвінаваціць нас і аддасць у рукі дзяржаўнага правасуддзя, то мы павінны быць падрыхтаваны да прыкрых наступстваў. У імя дзяржаўнага правасуддзя нярэдка цярпяць людзі не з прычыны зла, але з прычыны дабра. Прыклад — цярпенне і смерць Хрыста.

Паводле свету, можна красці, толькі нельга пападацца. Караецца не той, хто крадзе, а той, хто не ўмее красці, хто пападаецца. Намаганні гэтага свету зусім не скіраваны на тое, каб не было злодзеяў, а на тое, каб удасканаліць метады крадзяжу, каб не пападацца. Так думае свет. Бог жа прагне, каб не было злодзеяў, каб не было тых, хто крадзе. Разважаючы над Дэкалогам, трэба мець на ўвазе найвышэйшы суд справядлівасці. Найвышэйшую судовую ўстанову, але не гэтую, у сталіцы дзяржавы, а тую, у небе. Бог — наш суддзя, і ўсе гэтыя моманты, якія я тут прыводжу, належыць судзіць Яму. Ніжэйшыя інстанцыі могуць нас пакрыўдзіць, але гэтая, найвышэйшая інстанцыя ніколі нас не пакрыўдзіць.

Пасля такога тлумачэння я хацеў бы пайсці далей і паглядзець разам з вамі на грамадскую ўласнасць, гэта значыць, на сітуацыю, у якой тыя самыя багацці належаць пэўнай групе людзей. Гэта можа быць сям'я, дзяржава, народ, некалькі паяднаных народаў, Касцёл. Галоўны прынцып гучыць так: агульным багаццем нельга распараджацца па ўласнаму меркаванню, г.зн. нельга рабіць з яго прыватнай уласнасці. Можна адмовіцца ад прыватнай уласнасці на карысць агульнага дабра, але без згоды ўсіх нельга зрабіць грамадскае багацце прыватнаю ўласнасцю. Напрыклад, калі хтосьці мае каштоўную калекцыю карцінаў, ён можа яе аддаць у музей, робячы тым самым прыватную ўласнасць — уласнасцю публічнаю. Аднак чалавек не можа забраць з музея карціны і перанесці яе ў свой прыватны дом. Ідэальная сітуацыя ствараецца тады, калі супольнае багацце збіраецца дзякуючы дабравольным актам адрачэння ад прыватнай уласнасці. Чым менш насілля, чым менш сілы пры збіранні агульнага багацця, тым больш павагі да гэтага багацця.

Мы жывем пры сацыяльна-эканамічнай сістэме, заснаванай на грамадскай уласнасці. Таму часцей за ўсё парушэнне сёмай запаведзі Дэкалогу датычыць прысвойвання чагосьці з грамадскай уласнасці. Гэта часта адбываецца таму, што многія людзі атаясамліваюць грамадскую ўласнасць з нічыйнай. Тым часам грамадская ўласнасць мае ўладальніка: ім з'яўляецца ўсё грамадства, і немагчыма з яе што-небудзь прысвоіць, не ўчыніўшы крыўды іншым.

Вось прыклад. Мне патрэбна электрычная лямпачка. Я не магу купіць яе ў магазіне, бо іх там няма, але яны ёсць у мяне на працы. Я выкручваю лямпачку і прыношу яе дадому. На працы — лямпачка нічыйная, таму няхай турбуецца хтосьці, а не я. Логіка даволі простая: справа пастаянна датычыць лямпачкі — у мяне няма лямпачкі, мне патрэбна лямпачка, я бяру яе. Памылка такой логікі ў тым, што чалавек бачыць толькі і выключна лямпачку, а не заўважае, што ў той момант, калі ён рашаецца яе выкруціць, ён робіць выбар паміж лямпачкаю і ўласным сумленнем. Альбо буду мець лямпачку, альбо буду прыстойным чалавекам. Таму гэты выбар паміж рэччу часам вельмі малой вартасці і паміж чалавекам і яго прыстойнасцю. Калі для кагосьці лямпачка больш каштоўная, чым яго ўласнае сумленне, то не трэба здзіўляцца, што ён выкруціць тую лямпачку. У той момант, калі чалавек працягвае руку не па сваю рэч, ён пакідае супольнасць сумленных людзей, і ўваходзіць у кола несумленных асобаў, становіцца злодзеем. Катэгорыі несумленнасці вельмі розныя, пачынаючы з таго, хто крадзе лямпачку, і даходзячы да таго, хто прысвойвае мільёны, але гэта ўжо толькі справа катэгорыі. Прычым кар'еру ў тым несумленным свеце можна зрабіць вельмі хутка (...).

Трэба мець на ўвазе ўвесь гэты надзвычай пагрозлівы механізм, які існуе ў нашым грамадстве. Нам здаецца, што справа датычыць рэчы. Мы губляем з поля зроку вялікую каштоўнасць, якою з'яўляецца прыстойнасць чалавека. Тым часам Бога хвалюе не рэч, Бог заўсёды дбае пра чалавека і таму заклікае: "не крадзі".

Вы скажаце мне: мы жывем у такой сітуацыі, у якой нельга быць сумленным. Проста не ўдасца быць ім. Калі не ўкраду, то не змагу пражыць. Такога тыпу закіды мне даводзілася чуць дзесяткі разоў з вуснаў католікаў. (...) Згаджуся, што ў нашай сітуацыі сапраўды нялёгка быць сумленным чалавекам, але толькі тады, калі чалавек застаецца адзін. Тым часам можна быць сумленным, жывучы ў супольнасці некалькі сумленных, прыстойных людзей, якія дапамагаюць сабе ўзаемна. (...) У супольнасці лягчэй захаваць сумленнасць. Хрысціяне першых стагоддзяў тым здзіўлялі свет, што змаглі ў аднолькава цяжкіх умовах супольна змагацца за сумленнасць. У гэтым праяўлялася сіла хрысціянства.

*Працяг будзе.*

*Пачатак у №№ 1–6, 8–12 за 1998 г., у №№ 1–2, 5-6, 8-9 за 1999 г. і ў № 1–2, 3 за 2000 г.*

*Пераклад Крыстыны ЛЯЛЬКО.*



# Вяртанне

**Д**руйскі касцёл Святой Тройцы знямеў у вайну. Кажуць, жыхары Друі апошні раз чулі, як граў у касцёле арган... у часе пажару. У касцёл тады трапіла бомба. Арганіст Уладыслаў Багаткевіч, брат блаславёнага Мечыслава Багаткевіча, у той час быў у адным з пакояў кляштару, куды і ўпала бомба. Касцёл гарэў высозным полымем і, кажуць, што разам з трэскам агню людзі чулі жаласныя гукі музыкі – гэта плакаў у полымі вайны апошнімі ўздыхамі арган. Плакаў па касцёле, па выдатным арганісту і жыццялюбу Уладыславу, па нявінных ахвярах гэтай нялюдскай вайны, па сабе...

Вайна знявечыла касцёл. Тое ж, што яна не паспела разбурыць, учыніла потым бязбожная ўлада. Але напрыканцы багатага на трагічныя падзеі XX стагоддзя прыйшло адраджэнне і ў гэты касцёл. Праз шмат гадоў разлукі з роднай зямлёй вярнуўся на друйскую зямлю былы выхаванец Друйскай гімназіі марыянаў ксёндз Антоні Лось. Памяталі пра сваю прыгожую маладосць у Друі і іншыя выхаванцы гімназіі. Памяталі і вырашылі зрабіць для друйскага касцёла падарунак. Так з'явіўся ў святыні электрычны арган – дар былых друйскіх гімназістаў, якія цяпер жывуць у Італіі.

Сяброўства маладосці, як вядома, самае трывалае. І на памяць пра яго некалькі былых выхаванцаў гімназіі і сясцёр эўхарыстак ахвяравалі для друйскага касцёла Фацімскі звон. Алена Малецкая з Аўстраліі таксама ахвяравала звон на памяць пра свайго нябожчыка мужа, доктара Юзафа Малецкага. Трэці звон – дар выхаванцаў і прыяцеляў ксяндзоў марыянаў, а чацвёрты – падарунак ад былой друянкі Ванды Гняўкоўскай, якая цяпер жыве ў Беластоку. Так касцёл разжыўся ажно на чатыры званы, якія з'яўляюцца сімвалам адраджэння добрых спраў марыянаў, што праславілі Друю на пачатку стагоддзя. Няхай жа іх меладычны пераразвон не толькі нагадвае пра слаўнае мінулае, але і кліча на добрыя справы нашых сучаснікаў, цяперашніх жыхароў Друі.



*Рэштка неатынкаванай сцяны каля алтара Маці Божай Фацімскай — гэта напамін сучаснікам аб бязбожным вандалізме нядаўняга мінулага.*

А нядаўна з'явілася ў касцёле і фігура Маці Божай Фацімскай – дар пілігрымаў у санктуарый Маці Божай Каралевы Спакою ў Сточку Вармінскім (Польшча) – знак удзячнасці Пану Богу за атрыманую свабоду для Касцёла на Беларусі, Украіне, у Расіі.

Усе гэтыя каштоўныя дары былі ўрачыста асвечаны Яго Эксцэленцыяй кс.біскупам Уладыславам Блінам у часе дыяцэзіяльнага спаткання святароў, законнікаў і законніц. У сустрэчы прыняў удзел таксама і правінцыял марыянаў кс. Андрэй Пакула MIC. Радасна і святочна было ў гэты дзень у Друі. Старэнькая бабулька, якая з прычыны кепскага слыху не чула, што гавораць святары пры алтары ў часе Імшы, спачатку ціха перабірала пацерынкі ружанца, а потым уздыхала, выціраючы слёзы:



– Божа мой, Божа, ажно не верыцца. Быццам не мае вочы бачаць. Як і даўней усё роўна: і людзей шмат у касцёле, і святароў. Як сон.

І думалася тады, што мы, маладзейшыя вернікі, хоць і жылі пры бязбожным сацыялізме, але цяпер таксама яго ўзгадваем як сон. Як жахлівы сон, які не хочацца трымаць у памяці. Няхай жа ён назаўсёды застанецца ў мінулым. І няхай плыве ў неба ўрачысты звон друйскіх званоў – як падзяка Пану Богу за тое, што той атэістычны кашмар мінуў і мы зноў чуем гукі аргана, а над Друяй зноў звоняць званы ўдзячнасці і праслаўлення.

*Ірэна Задарожная. Фота аўтара.*

Скарбы святой думкі

# Св.Андрэй з Крэты, біскуп

Хадзем, узыдзем і мы на Гару Аліўную! Пабяжым насустрач Хрысту, які вяртаецца з Бэтані і па сваёй волі спяшаецца на святую і высакародную муку, каб да канца выканаць таямніцу нашага збаўлення.

Па ўласным жаданні Ён ідзе ў Ерузалем. Той, які дзеля нас зышоў з неба, каб узвысіць тых, што ляжаць у зямлі, і пасадзіць іх, як кажа Пісанне, "па-над усялякім Кіраваннем і Уладай, і Моцай, і Панаваннем, і па-над усялякім іншым прызываным іменем".

Прыходзіць не з гонарам і пыхаю, як той, хто хціва шукае славы. Ён "не будзе ані бараніцца, ані крычаць, і ніхто не пачуе Ягонага голасу". Ён будзе ціхі і лагодны, у бедным адзенні і сціплы ў часе свайго прыходу.

Дык пабяжым жа і мы разам з Хрыстом, які спяшаецца на сваю муку. Наследуйма тых, што выйшлі Яго сустракаць, але не для таго, каб слаць на дарозе пальмовыя і аліўкавыя галінкі, а таксама класці каштоўнае адзенне. Мы самі пасцелемся на зямлі ў пакоры духу і з сардэчнай прастатой, каб прыняць Слова, што надыходзіць.

Бо Ён цешыцца таму, што можа быць да нас лагодным. Ён, які напраўду з'яўляецца лагодным і "ідзе на захад", насустрач нашай мізэрнай слабасці, каб прыйсці да нас, яднацца з намі і прыцягнуць нас да сябе, парадніўшыся з намі.

Бо, нягледзячы на тое, што Ён праз ахвяру "ўзышоў на нябёсы нябёсаў, на ўзыход сонца" з нашай чалавечай натуры, альбо на вышыню ўласнай хвалы і Боства, аднак, Ён ніколі не адрачэцца ад прывязанасці да чалавечага роду. Ён заўсёды будзе рухаць чалавечую прыроду з зямнога праху да штораз вышэйшай хвалы, з'яднаўшыся з ёю, ажно пакуль не ўдзеліць ёй сваёй бясконцай годнасці.

Таму будзем жа рассцілаць перад Хрыстом саміх сябе, а не тунікі і мёртвыя галінкі, якія хутка губляюць сваю зеляніну. Апранемся ж у Яго ласку альбо ў Яго самога. Бо Святое Пісанне кажа: "Вы ўсе, якія былі ахрышчаныя ў Хрысце, апрануліся ў Хрыста". Ляжам жа да Ягоных ног, як разасланыя тунікі.

Нашыя грахі былі чырвонымі, як пурпур. Цяпер жа, абмытыя ў збавенных водах хросту, мы атрымалі бель воўны. Дык ахвяруем жа Пераможцу смерці ўжо не пальмовыя галінкі, але вянкі нашай перамогі.

Кожнага дня разам з ізраільскімі дзецьмі будзьма праслаўляць Яго святым спевам, узмахваючы духоўнымі галінамі і спяваючы: "Блаславёны, які прыходзіць у імя Пана".

# Дар дабрыні

Чэрвеньскі цёплы дзень. Пілігрымы, шчаслівыя пасля сустрэчы ў Польшчы са Святым Айцом Янам Паўлам II, вяртаюцца на Беларусь. У цягніку побач са мною апынуўся малады чалавек — Андрэй Кучынскі.Пачалася размова. Я кажу: "Нам у Легіён Марыі «Зорка надзеі» патрэбны чалавек, які прывозіў бы старых на Імшу". Андрэй адказвае: "А я як раз і марыў пра тое, каб збіраць адзінокіх і старых людзей і прывозіць у касцёл. Я з радасцю прыйду ў Легіён".

Кожную нядзелю Андрэй прывозіў на ўласным аўтобусе сляпых і пажылых людзей з Дому састарэлых, іншых адзінокіх людзей з горада. Ён быў не толькі вадзіцель, не толькі слуга Маці Божай, але і надзвычай добры чалавек, які размаўляў са старымі, слухаў іх, бескарысліва дапамагаў ім.

Ён пасланы на свет, каб рабіць вакол сябе дабро, – думаў кожны, гледзячы на Андрэя. Добры сын (ён захапляўся педагагічным талентам свайго бацькі, дырэктара школы), добры муж і клапатлівы бацька (у сям'і двое дзяцей), верны сябра, чулы да чужога болю чалавек. Пачуццё дабрыні было асноўнай мерай ягоных учынкаў.

Дабро... Як жа пазнаць, каму ў гэтую хвіліну яно патрэбна больш за ўсё? Андрэй меў такі дар: рабіць дабро, казаць добрыя словы, усміхацца па-добраму. Моладзь і дзеці цягнуліся да яго. Кожнага ён умеў пашкадаваць, ведаючы, як зрабіць, каб чалавеку стала радасней.

Андрэй быў эрудыраваным чалавекам, арганізоўваў сустрэчы патрыцыяў, імкнуўся дарыць веды тым, хто быў вакол яго. Усе ў Легіёне цягнуліся да яго.

Нечакана абарвалася жыццё: 28 студзеня 2000 года, аўтамабільная катастрофа.

Памяць пра Андрэя жыве ў сэрцы кожнага чалавека, каму пашчасціла яго ведаць. Пры сустрэчах з легіянерамі старыя людзі плачуць, шкадуюць яго, як роднага сына. Дзесяць кустоў ядлоўцу, якія Андрэй пасадзіў у касцельным скверы сведчаць пра тое, што ён з намі.

Разважаючы пра жыццё Андрэя, я хачу папрасіць вас, людзі: не саромейцеся рабіць дабро сваім бліжнім – членам сям'і, суседзям, аднавяскоўцам, калегам, усім людзям. Дабром мы пераможам зло.

*Марыя Мартыненка,*
*легіянерка,*
*г. Маладзечна.*

*Добро искать, добра не станет —*
*Уютом, лаской, теплом*
*Само добро добром одарит*
*У Бога черпая добро.*
*Сил не жалеет, не скупится,*
*Где нужно — там всегда оно.*
*И даже смерти не боится —*
*Поэтому бессмертное добро.*

*Моладзь касцёла св.Юзафа,*
*г.Маладзечна*



*На здымку:*
*Легіён Марыі г. Маладзечна*
*(Андрэй Кучынскі трэці справа).*



*Сястра Ірэна праводзіць катэхезу з самымі маленькімі парафіянамі.*

# Заўсёды з усмешкаю

Не так даўно ў Баранавічах скончыла працу VII сесія Сіноду. Адным з пытанняў, якія абмяркоўваліся ў гэтыя дні, было пытанне хрысціянскай фармацыі моладзі. Тэма складаная, адказная і цікавая. Маладосць – "гэта час, калі кожны адкрывае сябе самога і свой унутраны свет, гэта час першых адказных рашэнняў, калі абуджаецца жаданне грамадскіх кантактаў і асабліва глыбокая радасць, звязаная са шматабяцальным адкрыццём жыцця..." (СТ 38). Дзе ж адбываецца ўзрастанне і развіццё хрысціянскай моладзі? У праекце статутаў Сіноду ўказаныя месцы, дзе маладыя людзі маюць магчымасць фармаваць сваё хрысціянскае жыццё. Пералічваюцца апостальскія таварыствы і рухі, здольныя дапамагчы моладзі знайсці свой шлях. Калі ішла гаворка пра араторыі, аказалася, што мала хто з прысутных ведае аб існаванні гэтай формы працы з моладдзю на Беларусі. І тады прыйшло жаданне расказаць пра яе, каб як мага больш людзей ведала пра трох маладых дзяўчат, дзякуючы якім у Бабруйску жыве справа, распачатая некалі ў сярэдзіне XIX стагоддзя святаром Янам Боскам. Пачнем са знаёмства.

Старэйшая сярод салезіянак – сястра Анна Куждал. Ёй 36 гадоў. Мае педагагічную адукацыю. У сваёй парафіі ў Польшчы шмат працавала з моладдзю, таму набыла вялікі вопыт у гэтай справе. Ужо больш за 15 гадоў яна ў законе. Бог паклікаў, і яна пайшла, даручыўшы сябе Яму. Тут, у Бабруйску, сястра Анна кіруе невялікай салезіянскай супольнасцю і нясе адказнасць за яе працу і справы.

Сястры Ірэне Барцэвіч 29 гадоў. Па прафесіі яна філолаг, добра ведае італьянскую мову. Родам сястра Ірэна з Гродзеншчыны. Калі вучылася ў Лодзі ва універсітэце, пазнаёмілася з сёстрамі-салезіянкамі і дапамагала ім працаваць з цяжкімі дзецьмі ў араторыі. Паступова прыйшла да пераканання, што яе жыццё непарыўна звязанае са служэннем Богу ў законе салезіянак і трэба цалкам аддаць сябе гэтай працы, каб бачыць яе плён. З боку сваіх родных с.Ірэна знайшла разуменне і падтрымку. Вечныя шлюбы склала ў 1998 годзе.

Самая маладая сястра – Ала Валюкевіч. Ёй 23 гады, яна авалодала прафесіяй бухгалтара. Ала — чалавек вясёлы, любіць і ўмее танцаваць і гэтаму з задавальненнем вучыць дзяцей. Актыўнае рэлігійнае жыццё ў родным горадзе Ліда прывяло да думкі прысвяціць сябе працы з моладдзю і дзецьмі. Палічыла, што найлепш гэта можна зрабіць у законе салезіянак. Яе ўпэўненасць у сваім пакліканні пераканала бацькоў, якія спачатку вельмі засмуціліся такім выбарам. І ў 1999 годзе с. Ала склала свае першыя законныя шлюбы.

Дык што ж здолелі зрабіць гэтыя сімпатычныя ўсмешлівыя дзяўчаты, ордэн якіх называецца яшчэ й так: "Дочкі Марыі – Успамогі хрысціянаў".

Ксёндз Ян Боска стварыў ордэн салезіянаў (па прозвішчы св. Францішка Салезскага, якога ён абраў апекуном ордэна) для працы з моладдзю і дзецьмі, асабліва, як цяпер кажуць, "праблемнымі", лічачы, што павінен стаць выратавальнікам гэтай моладзі. Ён цвёрда ведаў, што ў кожным чалавеку, нават у адкінутым усімі, ёсць часцінка дабра, і трэба дапамагчы яму ўбачыць у сабе гэтае багацце. Гэтак жа лічаць і яго паслядоўніцы, што і надае ім сілы і энергію.



*"Канікулы з усмешкай" у летнім лагеры пры парафіі.*

У нашым касцёле можна сустрэць дзяцей і моладзь, якія адрозніваюцца ад іншых нават знешнім выглядам. Яны прыходзяць, часцей за ўсё, па запрашэнні нашых сясцёр. І калі дзесьці яны нікому не патрэбныя, лішнія, амаль бяздомныя, то тут да іх ставяцца з увагай, з імі лічацца, іх выслухоўваюць, іх проста любяць. І, як некалі вучыў Боска, тут іх вучаць працаваць, праводзіць вольны час, ім дапамагаюць, а часам проста кормяць.


*Новага ксяндза-пробашча вітаюць дзеці са сцэнкай “Торт-прывітанне”, падрыхтаванай сястрой Алай*

Акрамя гэтага, с. Ірэна працуе ў школе-інтэрнаце і навучае дзяцей польскай мове ў 5-й школе. Кожная сястра мае свае абавязкі ў касцёле, а яшчэ — рэлігійныя заняткі з дзецьмі, моладдзю і бацькамі. Для сваіх абавязковых штодзённых малітваў і разважанняў у кватэры, дзе жывуць сёстры, яны здолелі зрабіць з дапамогай моладзі цудоўную маленькую каплічку, і цяпер гэта не проста кватэра, а невялічкая святыня. З твараў нашых сясцёр ніколі не сыходзіць усмешка, якая магнетычна прыцягвае да іх не толькі моладзь, але і дарослых. Галоўнае ў іхняй працы — любоў, якой так не хапае сёння людзям. Напэўна, гэта лагодна ўсміхаецца дон Боска, бачачы сваіх наступніцаў у святой справе. Што і казаць, пашанцавала Бабруйску, калі былы пробашч кс. Раман Факсінскі запрасіў сясцёр-салезіянак працаваць у наш касцёл. А новы пробашч кс. Антоній Клімантовіч ужо плануе рамонт новых двух памяшканняў (нарэшце вернутых нам нядаўна дамабудаўнічым камбінатам), якія так патрэбныя для справаў араторыя. Думаецца, калі ў Бабруйску стане на некалькі злачынстваў менш сярод падлеткаў, то ў гэтым будзе і заслуга нашых сясцёр салезіянак. Дапамагай ім Бог.

*Ала Грахава.*

Пры касцёле, на жаль, няма парафіяльнага дома, таму сёстры збіраюць усіх у невялічкіх пакойчыках на трэцім паверсе. Чым жа яны там займаюцца? Кожны шукае занятак па інтарэсах. Ёсць відэа, шмат настольных гульняў, тэніс, футбольныя мячы. Можна маляваць, можна штосьці майстраваць, а аматары тэатру ўдзельнічаюць у рэпетыцыях будучых пастановак. І ўсё гэта пад наглядам і кіраўніцтвам сясцёр, якія цудоўным чынам паспяваюць усюды. Напрыклад, са спектаклем, падрыхтаваным на Каляды, самадзейныя артысты пабывалі ў школе-інтэрнаце, у дзіцячым доме і нават у нашым бабруйскім санаторыі. Прысвечаны Яну Боску невялікі спектакль аб ягоным жыцці быў настолькі зразумелым, добрым і кранальным, што ў многіх гледачоў наварочваліся слёзы.

У час канікулаў сёстры арганізавалі лагер з экскурсіямі, паходамі, спаборніцтвамі і смачнымі абедамі, якія гатавала с.Анна.


*Сястра Ала ў араторыі разам з дзецьмі.*


*Моладзь Бабруйска у Польшчы на салезіянскім спатканні моладзі “Campo Bosco 99”.*



# “І ГАДЗІНА ІХ СМЕРЦІ БУДЗЕ ШЧАСЛІВАЙ...”

*Не так даўно памерла мая блізкая сяброўка Ірына. Пайшла з жыцця ў 38 гадоў, пакінуўшы 16-гадовую дачку. Пайшла ў росквіце жыцця і ў зеніце свайго прафесійнага поспеху. Па мерках гэтага свету ў яе было ўсё: грошы, кар'ера. І вось раптоўна — страшэнная хвароба, рак. Падчас аперацыі ёй выразалі ўвесь страўнік і большую частку стрававода. Дактары паведамілі родным, што больш за год яна не пражыве.*

*Ірына ж пражыла больш за тры гады. Пан Бог даў ёй час і ўсе ўмовы для ратавання душы. Ён клікаў за сабою і цярпліва чакаў. А Ірына, перажыўшы складанейшую аперацыю, ледзьве жывая пасля хіміятэрапіі, з галавою акунулася ў сваю працу, звязаную з бізнесам. Гэта для яе было пакуль што галоўным...*

Самае пэўнае ў жыцці — смерць, і самае няпэўнае — яе час, гаворыць лацінскае выслоўе. Менавіта з-за гэтай няпэўнасці часу чалавек павінен заўсёды быць падрыхтаваны да адыходу ў вечнасць.

Аднак... Смерць успрымаецца многімі з нас як нешта такое, што можа здарыцца толькі з іншымі. У жыццёвай мітусні, у пагоні за дабрабытам, кар'ерай, славай мы забываем аб часовасці ўсяго гэтага, аб імгненнасці нашага зямнога жыцця. Забываем пра самае галоўнае — пра ратаванне душы, пра жыццё вечнае. Але Нябесны Айцец, які любіць нас, не жадае, каб мы губілі свае душы. Бачачы, што дзіця ідзе не тою дарогаю, Бог засцерагае, спасылаючы выпрабаванні. А калі гэта не дапамагае, у жыцці чалавека здараецца сапраўдная бяда. Часцей за ўсё — сур'ёзныя праблемы са здароўем. І вось тады вельмі важна зразумець і з пакораю прыняць усё гэта, адчыніўшы сваё сэрца для Пана Бога, — адзінага Лекара, адзінага Збавіцеля.

Нашы доўгія размовы пра Бога, пра малітву і вечнае жыццё спачатку яе стамлялі, іншы раз нават раздражнялі, хоць, трэба сказаць, што яна не была няверуючай. Разумела, што Бог ёсць, аднак яе сэрца было для Яго пакуль што зачынена. Ірына мела патрэбу ў малітве, і гэта было відавочна. Мы прасілі вернікаў маліцца за яе ў касцёле, ахвяроўвалі Святую Імшу, а таксама саракауст за здароўе ў праваслаўнай царкве, бо Ірына была там ахрышчаная.

Час ішоў. Аднойчы мне прыснілася, што я ў нейкай светлай галерэі і праз вялізнае шкло бачу толькі неба. І раптам — голас. Я разумею, што гэта голас Езуса Хрыста, хоць і не бачу Яго.

— Запытай у Ірыны, — сказаў Хрыстус, — чаму яна не аддзячвала Мне за ратаванае жыццё?

Шчыра кажучы, я не звярнула вялікай увагі на той сон і нічога сяброўцы не сказала. Праз некаторы час сон з дакладнасцю паўтарыўся. І тады я паехала да Ірыны. Тая ўспрыняла ўсё сур'ёзна. Неяк разгублена запытала: “А што я павінна рабіць?”. Я паказала ёй раздзел з Евангелля, у якім гаворыцца пра тое, як Езус аздаравіў дзесяць пракажоных, і толькі адзін з іх вярнуўся, каб падзякаваць Хрысту і пайсці за Ім. На жаль, бізнес і гэты свет моцна трымалі Ірыну і аддацца цалкам Богу ў яе не хапала сілы. Удзячнасць абмяжоўвалася тым, што яна зрэдку заязджала ў царкву, каб паставіць свечку і ахвяраваць грошы на малебен за здароўе. А Бог чакаў. “Дык, умілаваныя, чакаючы гэтага, пастарайцеся з'явіцца ў міры перад Ім непаганенымі і без сказы, а доўгацярплівасць Пана нашага ўважайце за збаўленне...” (2 П 3, 14-15).

Аднойчы здароўе Ірыны рэзка пагоршылася. Абследаванне ў клініцы паказала, што з'явіліся метастазы і дні яе злічаны. Цяпер наша з ёю сустрэча была абсалютна іншая. Кожнае слова малітвы яна, здавалася, убірала ў сябе, як сухая губка ваду. Папрасіла пакінуць ёй малітоўнік і прынесці духоўную літаратуру. Яна цалавала абразок з выявою аблічча Езуса Хрыста на Турынскай Плашчаніцы і амаль не выпускала яго з рук. Яшчэ праз некалькі дзён надзела шкаплер. Гэты духоўны парыў не быў звычайным страхам смерці. Гэта было сапраўднае азарэнне.

— Як жа я ўсяго гэтага раней не разумела, — гаварыла яна часта, — цяпер нібыта заслона ўпала з вачэй.

Яна часта плакала, шкаду-

ючы не сябе, а Езуса Хрыста, замучанага на Крыжы. Плакала і малілася за цяжкахворых, за паміраючых і за ўсіх тых, хто не хоча прыняць выратавальнай ахвяры Хрыста. Прасіла: "Маліцеся за мяне, бо я за сябе не магу маліцца..."

Яе духоўнасць узрастала з неверагоднаю хуткасцю. Пра гэта гаварыў і праваслаўны святар, якога яна амаль кожны тыдзень запрашала, каб паспавядацца і прыняць Святое Прычасце. Любімымі яе малітвамі былі Крыжовая дарога Езуса Хрыста і вяночак да Божае Міласэрнасці.

Вяночак да Божае Міласэрнасці стала любімаю малітваю не толькі Ірыны, але і яе родных і блізкіх... Аднойчы родная Ірыніна сястра сказала: "Я сама медык і добра ведаю, як паміраюць людзі пры такой хваробе, аднак мая сястра амаль што не адчувае болю. Вядома ж, гэта цуд, і чыніць яго толькі малітва, толькі Божая Міласэрнасць".

Неяк падчас чарговай нашай сустрэчы Ірына спыталася: "Што такое навэнна да Божае Міласэрнасці?" Потым патлумачыла, што падчас малітвы ўбачыла сябе на крыжы і пачула словы Хрыста: "Маліся навэнну да Божае Міласэрнасці".

Вядома, што гэта навэнна распачынаецца ў Вялікую Пятніцу і заканчваецца ў другую Велікодную нядзелю, у свята Божае Міласэрнасці.

У гэты самы дзень была якраз Вялікая Пятніца, але па праваслаўным календары. Было відавочна, што Бог жадае гэтай малітвы і ад праваслаўных хрысціянаў. Ірынін духоўны настаўнік, праваслаўны святар, быў не супраць, каб яна распачала навэнну.

Веруючыя людзі ведаюць, што ў жыцці няма выпадковасцяў, усё здараецца па волі Божай. І тое, што Бог паслаў Ірыне менавіта такога святара, таксама Провід Божы. Паміраючая жанчына была прыкладам сапраўднага экуменізму. Яна ніколі не падтрымлівала размоваў пра міжканфесійную рознасць. Перажывала, калі чула ад хрысціянаў нядобрыя словы на адрас сваіх братоў з іншай хрысціянскай канфесіі. Аднойчы нават заплакала, сказаўшы з болем: "Ну чаму многія яшчэ не разумеюць элементарнага: не праз шыльду канфесіі будзе выратаваны чалавек, а праз сапраўдную любоў да Бога і да бліжняга". Папрасіла, каб жалобную Імшу, калі памрэ, адправілі і ў царкве, і ў касцёле.

З кожным днём яна слабела. Аднаго разу запытала: "Колькі яшчэ дзён навэнны засталося маліцца?" Пачуўшы "два", уздыхнула і змоўкла. Ірына ведала, што адыдзе да вечнасці пасля заканчэння гэтай навэнны. Так і здарылася. Натуральна, што паміраць яна не хацела, аднак ніколі не скардзілася ні на лёс, ні на Бога. Адыходзіла пры поўнай свядомасці, так і не прыняўшы ніводнага абязбольваючага ўкола. Папрасіла запаліць свечку. Нейкі час глядзела на яе, потым перавяла позірк вышэй і вышэй і раптам шырока расплюшчыла вочы, нібыта ўбачыла нешта яркае. Усміхнулася — і ўсё...

Суцяшаючы родных і блізкіх на пахавальнай паніхідзе, праваслаўны святар сказаў: "За гады сваёй святарскай службы я бачыў дваіх яўна збаўленых людзей, адна з іх — Ірына"...

Праз некалькі месяцаў сяброўка прыйшла да мяне ў сне. Іншы раз здаецца, што гэта быў не сон, а ява, настолькі ўсё выразна і добра помніцца. Мы абняліся, і я запытала: "Дзе ты і як ты?" Яна коратка адказала:

— Я ў раі.

— Няўжо так проста трапіць у рай? — спытала я.

— Не, туды трапіць вельмі нялёгка, — адказала яна, — але мне дапамаглі малітвы, асабліва да Божае Міласэрнасці.

Нягледзячы на тое, што гэта быў толькі сон, я ўсёю душою веру ў тое, што яно так і ёсць, і мая сяброўка — у небе. Бо сам Езус Хрыстус сказаў благаслаўлёнай Фаўстыне: **"Няхай ніводная душа не баіцца прыблізіцца да Мяне — нават калі яе грахі будуць як пурпур. Мая міласэрнасць такая вялікая, што за цэлую вечнасць яе не ахопіць нічыя свядомасць — ні чалавечая, ні анёльская"** (Дзённік бл. Фаўстыны, № 699). І далей: **"Дачка Мая, заклікай душы да чытання вяночка, які Я табе даў. Кожнаму, хто будзе чытаць гэты вяночак, Я дам усё, аб чым ён Мяне папросіць. Калі яго будуць чытаць закаранелыя грэшнікі, Я напоўню іх душы супакоем, і гадзіна іх смерці будзе шчаслівай. ...Скажы, што ні адна душа, якая звяртаецца да Маёй міласэрнасці, не памылілася і не зведала расчаравання. Помні, што калі гэты вяночак будуць чытаць каля паміраючага, Я стану паміж Айцом і адыходзячай душой не як справядлівы Суддзя, а як міласэрны Збаўца"** (Дзённік бл. Фаўстыны, № 1541).

*Галіна КАЛЕВІЧ.*





## *Даша ЛОСЕВА*

*Даша — мая дачка. Я доўгі час, што называецца, не пускала яе ў друк. Усё прыглядалася... Цяпер, калі ўпэўнілася, што з яе нешта выйдзе, калі ўжо ёсць нештачка загадкавае, што нараджае паэзію, я з лёгкім сэрцам адпускаю яе на сваю дарожку ў літаратуру. Хай яна будзе шчаслівай — і на творы, і на людзей у літаратуры. Апошняе — дужа важна для кволых плечыкаў, часам, ад гэтага залежыць увесь лёс! Хай будзе шчаслівай мая дачушка ў песнях сваіх! Дай Бог ёй Долі! І яшчэ — Даша вельмі любіць касцёл, запісалася ў хор пры ім. Праўда, дзяўчынка яна вельмі хворая і часта замест школы, замест любімых заняткаў адлежвае ў клініках сталіцы... Ну, ды чытайце лепш яе творы!*

*Марыя ПАНКОВА, пісьменніца.*

### ПРАСПЯВАЙЦЕ ПЕСНЮ ПРА МЯНЕ...

*Праспявайце песню пра мяне,*
*Праспявайце песню*
*пра дзяўчынку,*
*Што жыве ў балеснай*
*старане*
*І лятае часта аблачынкай.*

*Не такая, мабыць, як усе,*
*Не такая,*
*што не знаюць шчасця*
*Босымі прабегчы па расе,*
*І пра радасць*
*гэту песню скласці!*

*Праспявайце песню пра мяне,*
*Пра мае залочаныя зоры,*
*Што знаходжу ў кожнае вясне,*
*Калі бэз мне шчасце*
*сваё дорыць!*

*Праспявайце песню пра мяне,*
*Праспявайце песню*
*пра дзяўчынку,*
*Што жыве ў балеснай*
*старане*
*І лятае часта аблачынкай.*

* * *

*О, як хачу я ў лес зялёны,*
*Хачу — у сполахі травы.*
*Хачу абняць рабіны-клёны,*
*Якія шэпчуць мне: "Не рві!*
*Не рві маёй лістоты ранняй,*
*Што ад зямлі і ад нябёс".*
*А я ў ружовым шчэ тумане*
*Стаю ля ўзрушаных бяроз.*
*О, мая раніца-дарога,*
*Мой ластаўчыны неспакой!*
*Хай будзе песень маіх многа*
*І на зямлі, і над зямлёй!*

* * *

*О, спявайце са мною вы разам*
*Пра мой край, што*
*у сэрцы баліць.*
*Ён бярозкай вячыстай і вязам,*
*І рабінкай чырвонай гарыць.*

*Ён і Коласам, ён і Купалам,*
*І Максіма самотным радком.*
*Я паэзію ў сэрца ўвабрала*
*З любай мамы сваёй малаком.*

*О, мой край!*
*Беларускі мой краю,*
*Мой палынны і мой залаты!*
*Да цябе я душой прыпадаю,*
*Абдымаю лясы і сады.*

*Абдымаю цябе, мая мама,*
*Пасівелую раньш за гады.*
*Боль схаваўшы,*
*вядзеш ты да храма,*
*Да касцёльнае светлай радні.*

*О, мой край,*
*Беларускі мой краю,*
*Мая ціхая мама — мой край.*
*Як цябе ўсёй душой абдымаю,*
*Так і ты мяне, край, абдымай!*



* * *

*О Беларусь!*
*Хваробы смутак,*
*Мая балючая сляза...*
*Адкуль на нас, дзяцей, атрута,*
*Адкуль ты, горкая раса?*
*Мне кажа мама:*
*— З парасонам,*
*Дачушка, пад дажджом ідзі.*
*А лепш сядзі ты дома сёння*
*І праз акно на свет глядзі!*
*А я хачу пад цёплы дожджык,*
*А я хачу ў маёвы сад,*
*Галінак бэзавых прыгожых,*
*Галінак яблынь снегапад.*
*Хачу да сэрцайка рукамі*
*Усё на свеце прытуліць.*
*Хачу заліцца з жаўрукамі*
*Вясёлай песняй ля крыніц!*

*О Беларусь!*
*Мой цяжкі смутак,*
*Хваробы горкая сляза.*
*Адкуль на нас, дзяцей, атрута,*
*Адкуль смяротная раса?!*



Дарагія сябры! Віншую вас з Вялікаднем! Смачнага вам яйка і вясёлага "Алелюя"! Прызнаюся шчыра: гэта маё любімае свята ў касцельным календары. І не толькі таму, што мы, дзеці, пасля рэзурэкцыі ў касцёле збіраемся качаць прыгожа пафарбаваныя яйкі. У гэты дзень я моцна радуюся найперш таму, што наш Пан Езус Хрыстус уваскрос! Ён перамог саму смерць, і цяпер яна ўжо не такая страшная для ўсіх нас, асабліва для тых, хто верыць у Езуса Хрыста.

Вялікдзень для мяне – гэта заўсёды вясна, заўсёды шмат усмешак, вясёлых песень, радасці і, вядома ж, смачныя-смачныя маміны пірагі. Спадзяюся, усе вы таксама весела, па-хрысціянску, перажываеце гэтыя прыгожыя вясновыя дні. Жадаю, каб яны былі для вас па-сапраўднаму вясёлымі і шчаслівымі. Няхай уваскрослы Хрыстус робіць нашае жыццё прыгожым, радасным і шчаслівым! Алелюя!

*Марыська.*




## Частка трэцяя — хвалебная

### Таямніца трэцяя
### СПАСЛАННЕ ДУХА СВЯТОГА НА АПОСТАЛАЎ

**Пытанні да разважанняў**

1. Кім з'яўляецца Святы Дух?
2. Пад выглядам чаго Святы Дух сышоў на апосталаў?
3. Што сталася пасля гэтага з вучнямі Хрыста?
4. Хто прамовіў пасля гэтага прыгожае і адважнае казанне?
5. Якое свята мы святкуем у Касцёле на ўшанаванне Святога Духа?



Ахвяруем Табе, Святы Духу, гэты трынаццаты дзесятак на ўшанаванне таямніцы Святога Духа і просім Цябе праз гэтую таямніцу і праз заступніцтва Святой Марыі паслаць усім людзям Божую мудрасць. Каб усе палюбілі Пана Бога і жылі па Яго запаветах.

Няхай ласка Святога Духа ўвойдзе ў маю душу і ўчыніць яе мудрай, святой і чыстай.

*Ойча наш...*
*10 Вітай, Марыя...*
*Хвала Айцу...*
*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі...*

# Запаліць агеньчык веры



*"Я – святло свету: хто пойдзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець святло жыцця"* (Ян 8, 12). Гэтыя словы Езуса Хрыста ведае, бадай што, кожны хрысціянін, бо ў іх Хрыстус адкрывае праўду пра сябе і чалавека. У іх Ён раскрывае прызначэнне чалавека і сэнс ягонага жыцця.

Святло і жыццё... Дзве рэчаіснасці, якія бясконца моцна злучаныя паміж сабой, бо, як вядома, дзе няма святла – там адсутнічае жыццё, дзе няма жыцця – там калісьці не хапіла святла. Гэтае ж правіла пацвярджаецца і ў духоўным жыцці. Нельга здабыць вечнае жыццё без святла, якім з'яўляецца Хрыстус, бо няма *"іншага імя пад небам, дадзенага людзям, якім бы нам збавіцца"* (Дз 4, 12).

Словы Хрыста з Евангелля ад святога Яна пайстагоддзя таму моцна запалі ў сэрца ксяндза Францішка Бляхніцкага з Польшчы. Хто ён такі? Чалавек, на долю якога выпала шмат выпрабаванняў. Ягонае навяртанне да Бога адбылося ў гады мінулай вайны, калі ён у страшным лагеры Асвенцым чакаў смяротнае кары. Тады і вырашыў: калі застанецца жыць, то сваё далейшае жыццё прысвяціць Хрысту. Ён выжыў і стрымаў сваё слова. Больш таго, стаўшы святаром, ён распачаў працу з моладдзю, засяродзіўшыся на занятках з невялікімі групамі, якія называліся "Аазісамі Божых дзяцей". Ён распрацаваў методыку 15-дзённых рэкалекцый – "Аазісаў Жывога Касцёла". Так і распачаўся рух, які сёння вядомы ў свеце пад назваю "Святло – Жыццё".



Гэты рух вельмі хутка распаўсюдзіўся з Польшчы на Нямеччыну, Славакію, Чэхію і нават Балівію. Цяжка сказаць, ці прадбачыў заснавальнік, што некалі ягоны рух пачне жыць і на Беларусі. Але гэта сталася. Вось ужо некалькі гадоў бруіцца на нашай Бацькаўшчыне жывая крыніца веры, надзеі і любові, якая называецца "Святло – Жыццё". Адбываюцца летнія рэкалекцыі, пашыраецца праца ў парафіях, з'яўляюцца ўсё новыя і новыя групы Аазіса. Для больш плённай і арганізаванай працы выдадзена некалькі дапаможных нататнікаў. Цікава праходзяць дыяканальныя сустрэчы. Адметнай рысай дзейнасці руху сталі масавыя сустрэчы, так званыя дні супольнасці. Першая з іх адбылася ў студзені ў мінскай катэдры, затым – у Полацку, але найбольш удала прайшоў дзень супольнасці 29 сакавіка ў Дунілавічах, куды пры-

халі 350 чалавек. У сустрэчы прынялі ўдзел дзеці, моладзь, сем'і.

Папярэдне ў Дунілавічах прайшлі курсы аніматараў, на якія прыехала 38 чалавек. Курсы сталі своеасаблівай падрыхтоўкай да дня супольнасці. Менавіта аніматары ўзялі на сябе ініцыятыву за арганізацыю і правядзенне сустрэчы. Моладзь сама рыхтавала спевы, літургію, дэкарацыі, а таксама і абед для гасцей.

Дзень супольнасці распачаўся Святой Імшой, якую разам з шасцю святарамі цэлебраваў Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі. У казанні ён заахвоціў удзельнікаў сустрэчы да глыбейшага перажывання веры і сапраўднай сустрэчы з Хрыстом у глыбіні сэрцаў.

Цікава прайшла прэзентацыя парафіяльных груп. Іх было 27. Кожная распавяла пра сваю парафію, пра дзейнасць руху сярод дзяцей, моладзі, сем'яў. Такія размовы прыносяць шмат карысці, бо дазваляюць бліжэй пазнаёміцца, зразумець тыя праблемы, з якімі штодзённа даводзіцца сустракацца. І хто ведае, можа, у часе гэтай нязмушанай, шчырай гутаркі хтосьці знайшоў адказы на нейкія свае пытанні, а хтосьці здолеў паглядзець на складаную праблему больш аптымістычна.



Пазней адбылася цікавая сустрэча моладзі з удзельнікамі Наваполацкага тэатра-студыі "Зьніч". Гэтая частка праграмы была зусім не выпадковаю, бо, як вядома, культура і рэлігія цесна звязаны паміж сабой. Святы Касцёл заўсёды клапаціўся аб развіцці культуры таго народа, да якога ён ішоў. Паколькі ж на Беларусі ў наш час адчуваецца крызіс культуры, то Касцёл ставіць перад сабою мэту культурнага адраджэння народа, якое з'яўляецца часткай адраджэння духоўнага.

Скончыўся дзень супольнасці рэлігійным гімнам "Магутны Божа".

...Удзельнікі тае сустрэчы патушылі свечку Аазісу на алтары, атрымалі благаслаўленне на далейшую працу і раз'ехаліся па сваіх парафіях. Думаецца, агеньчыкі, запаленыя ў іхніх душах у часе таго спаткання, не пагаснуць, але будуць свяціць і іншым людзям, паказваючы дарогу да Хрыста. Бо гэта вельмі і вельмі важна – паказаць камусьці правільную дарогу, тую, на якой чалавек знойдзе адказы на шматлікія пытанні, што задае яму наш няпросты, а часам і жорсткі час.

Рух "Святло – Жыццё" ставіць перад сабою мэту фармавання сапраўдных хрысціянаў, якія б не фармальна, але сэрцам усведамлялі сваю прыналежнасць да Хрыста. Вельмі важна, каб кожны з нас быў асабіста ў гэтым зацікаўлены. Таму сардэчна запрашаем кожнага да супрацоўніцтва з рухам "Святло – Жыццё" і да ўдзелу ў нашых сустрэчах. Неабходную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (255) 3-43-46. Сем'і могуць тэлефанаваць па нумары (0222) 41-33-75.

*Аляксандр Амяльчэня,*
*дыякан.*



*На здымках:*
*у часе дыяцэзіяльнай сустрэчы ўдзельнікаў руху "Святло – Жыццё" ў Полацку.*



*Таццяна МУШЫНСКАЯ*

# ЗНАХОДКА

## Апавяданне

* * *

Цішыню ў кватэры парушыў тэлефонны званок. Алена здагадалася, хто звоніць.

— Алё... Прабачце, — пачула яна амаль што ўмольны голас, — вы пакінулі свой тэлефон у кавярні. Справа ў тым, — жанчына ўсё ніяк не магла аддыхацца, — што гэта менавіта я забыла сумачку... Скураную, цёмна-карычневую, на доўгім раменьчыку...

— Ды вы не хвалюйцеся, — пачала супакойваць жанчыну Алена. — Сумачка ў мяне. Я скажу вам адрас. Запомніце ці запішаце?

— Запомню, запомню, — паспешліва адказала жанчына.

— Прыязджайце зараз жа...

— Добра, я еду.

На тым канцы провада з палёгкай уздыхнулі.

* * *

Ірэна ехала ў бок гарадской ускраіны. Нумар дома, корпус і кватэру яна запісала на той самай паперцы, якую ёй далі ў кавярні.

«Чаму ж я пакінула сумачку? Напэўна, ва ўсім вінавата ранішняя размова з сынам. Гэта яна выбіла з каляіны. Сынок, зараза гэткая, усе нервы выматаў... Каб хадзіў у адных зашмальцаваных джынсах, лататых-пералатаных ды раніцою макароны нішчымныя еў, дык, напэўна, не размаўляў бы так з маці... З раскошы шалее. А хіба не? Прызвычаіўся на ўсім гатовым жыць. Відзікі-шмідзікі, касеты, сябры...

Што з ім будзе? Тры гады вучылі яго, колькі грошай упяклі, кожны месяц плаці, і ўсё — «зялёнымі». Цяпер ён, бач ты, зразумеў, што не ў той інстытут паступіў. Будзе кідаць. І па новай... Як пра гэта бацьку сказаць? Ізноў грошыкі? А чые? Мае. Гарбом зароблены!

Вернешся з чарговай гандлёвай вандроўкі з выручкай і абяцаеш сабе: «Хопіць! Годзе! Усіх грошай не заробіш!», але праз пэўны час высвятляецца, што грошыкаў няма і зноў возіш гэтыя клункі, сумкі, торбы, валізкі. І зарабляеш, зарабляеш... І ўсё — мала, мала, мала...

Самае цікавае на потым адкладваеш. Ні тэлевізар паглядзець, ні кніжку пачытаць, ні на дачы пасядзець, на неба зірнуць. А потым высветліцца, што «потым» ніколі і не будзе. Што цэлае жыццё вось так у рэйсах і прайшло. Але, з другога боку, лепш жабраком быць?

Вялікія грошы самі па сабе не прыходзяць. Гэта цяжкая праца. А калі нехта асуджае ці пагдядае скоса, дык проста ад зайздрасці... А ўсё-ткі, верне гэтая дзівачка грошы ці не?»

* * *

У кватэру пазванілі. На парозе стаяла ўжо знаёмая Алене паўнаватая бландзінка ў бежавым паліто. Але гэтая жанчына вельмі мала была падобна на тую, упэўненую ў сабе, што няспешна і з асалодаю памешвала каву ў кавярні. Успацелы твар, пабіты чырвонымі плямамі, быў разгублены, у вачах праглядвала роспач.

— Добры вечар. Гэта я званіла вам з паўгадзіны назад, — хрыплым ад хвалявання голасам прамовіла госця, умольна ловячы гаспадынін позірк.

— Я вас пазнала. Мы з вамі за адным столікам каву пілі.

Алена ўзяла ў рукі карычневую скураную сумачку, якая ляжала ў прыхожай на палічцы пад люстэркам.

— Ваша?

— Мая, — не сказала, а выдыхнула госця.

— Вы мне прозвішча сваё скажыце. На ўсялякі выпадак, каб і я была ўпэўненая, — папрасіла гаспадыня, спакойна ўсміхаючыся. І ў голасе, і ў гэтай лагоднай усмешцы было спачуванне і разуменне чужой бяды, якой яна хутчэй імкнулася дапамагчы.

Прозвішча сышлося з тым, што было напісана акуратным каліграфічным почыркам у пашпарце.

— Тады трымайце сваю прапажу, — цяпер ужо весела засмяялася Алена.

«Дзіўна, яна так радуецца, як быццам не яна вяртае згубу, а ёй вяртаюць», — падумала Ірэна.

Жанчына адчыніла сумачку. «Якое шчасце, што хоць пашпарты знайшла. Не трэба ўсё па-новаму афармляць. Пра грошы пытаць ці не? Хто можа даказаць, колькі там было і ці былі яны там наогул? А можа, пачакаць, не ісці? Можа, хоць частку аддасць? Як жа з ёй дамовіцца? Па якіх правілах тут гуляць, каб выйграць?»

— Вялікі вам дзякуй, — сказала Ірэна. — Я ўжо і не спадзявалася, што знайду...

Госця нібыта зрабіла крок да дзвярэй.

— Пачакайце, — спыніла яе Алена. — А грошы? Чаму ж вы пра іх не пытаецеся? Пералічыце, — яна выняла з кішэні стосік «зялёных». — У сумачцы былі дзве тысячы.

Ірэна моўчкі глядзела на гаспадыню, як быццам не разумела сэнсу сказаных ёю слоў. Нешта варухнулася ў яе душы, дзе перамяшаліся і няёмкасць, і разгубленасць, і сорам, што абавязана яна цяпер той самай жанчыне, пра якую ў кавярні думала як пра жабрачку...

— Пералічыце, — паўтарыла ціха Алена, як бы здагадваючыся пра эмоцыі, што віравалі ў душы яе госці.

«Напэўна, нейкая дзівачка... Ці пабожная дужа. Вунь, нават у прыхожай абраз вісіць... Значыць, мне моцна пашанцавала. Божа мілы, няўжо ўсё аддасць?»

Трэба было сапраўды ўзяць і пералічыць. Ірэна сутаргава праглынула камяк, што стаў у горле, узяла грошы, пачала лічыць. Але ці таму, што Ірэна толькі цяпер адчула, як яна стамілася за гэты дзень, ці таму, што ліфт у доме не працаваў і яна падымалася пешкі на восьмы паверх, рукі яе не слухаліся, дрыжалі. Долары былі новага ўзору, з буйным партрэтам амерыканскага прэзідэнта, які, здалося Ірэне, паглядаў на яе са здзеклівай усмешкай. Пад гэтым позіркам яна збілася, пачала зноў пералічваць.

— Ды вы не хвалюйцеся, прайдзіце ў пакой, сядзь-

*Заканчэнне. Пачатак у № 3 за 2000 г.*

це на канапу, — са спачуваннем параіла Алена.

— Не, дзякуй! Я — у прыхожай...

Пасля другой няўдалай спробы Ірэна спыніла сябе сама:

— Ды не буду я лічыць! Я вам і так веру!

Можа таму, што даўно ніхто не размаўляў з ёю так, калі ўвесь час табе не трэба бараніцца, Ірэне чамусьці захацелася заплакаць. Але яна даўно засвоіла, што плачуць толькі слабыя і няўдачнікі. А яна не хацела і не магла быць няўдачніцай. Гады здабывання грошай прывучылі яе да думкі, пераканалі моцна і назаўсёды, што нельга надта шкадаваць тых, хто побач, яны — канкурэнты, і калі з табой здарыцца штоякое — яны не пашкадуюць...

— Колькі вы хочаце мець з гэтай сумы? — спытала яна суха, адагнаўшы ад сябе непатрэбныя сантыменты і паволі вяртаючы звыклую ўпэўненасць.

— Ну, што вы! Гэта ж вашы грошы! Вы ж іх, напэўна, доўга збіралі? Хіба ж вы гэтаксама не аддалі б?

«Не ведаю. Напэўна, я не аддала б», — падумала Ірэна, — а ўслых прамовіла:

— Ну, давайце, хоць сотню. Па закону таму, хто знайшоў скарб, чацвёртая частка належыць. А гэта ж не скарб... Я вам яшчэ мала прапаную...

— Не, не!

— Мама, перастань! — у дзвярным праёме з'явілася Каця. Напэўна, яна чула ўсю папярэднюю размову.

Госця з цікавасцю паглядзела на дзяўчыну.

— Я бачу, што ваша дачка — крыху іншая, чым вы... Яна разважае больш рэалістычна.

Ірэна яшчэ раз паглядзела гаспадыні ў твар. І па выразе яго зразумела, што тая сапраўды не возьме. Вось дык пашанцавала! Але ў гэтым шанцаванні штосьці самой Ірэне не падабалася. Яна не хацела такіх падарункаў. Гэта азначала, што яна будзе абавязана дзіўнай незнаёмай жанчыне. А яна не хацела быць абавязанай. Яна не разумела тых правілаў, па якіх гуляла з ёю гаспадыня. Можа, тут нешта не так, ці прыхаваны нейкі падвох? Тады Ірэна застаецца пры сваіх грашах, але атрымліваецца, што маральная перамога на баку гаспадыні?

— Вазьміце хоць залаты пярсцёнак, — яна пачала здымаць з пальца паўнаватае рукі пячатку, але тая не паддавалася.

— Перастаньце, што вы робіце? Не буду я браць!

— Мама! — яшчэ раз абурылася Каця.

Жанчына спынілася, пакінула пярсцёнак у спакоі і з відавочнай цікавасцю паглядзела на дзяўчыну.

— Вы не слухайце маю маці! Яна гатовая ўсім сваё пааддаваць, не тое што чужое, — з не надта вясёлаю ўсмешкаю прамовіла Каця.

— Дачушка, ідзі, займіся сваімі справамі, мы самі разбярэмся, — досыць рашуча спыніла дачку Алена. — Ведаеце, — звярнулася яна да госці, — лепш я вам дам кнігі, вельмі добрыя кнігі, якія мы нядаўна атрымалі ў брацтве.

Ірэна заўважыла, што голас гаспадыні зрабіўся крыху іншы, нейкі прасветлены і ўрачысты, нібыта яна была не ў сваёй кватэры, а недзе зусім у іншым месцы і бачыла яна тое, чаго не бачыла госця. Гэта было і нечакана, і крыху недарэчна, і смешна.

Гаспадыня вярнулася з залы ў прыхожую з невялічкім стосікам кніг. На вокладцы верхняй з іх быў намаляваны Хрыстос на воблаку. «Я не памылілася, яна сапраўды веруючая», — мільганула ў госці думка.

— Вазьміце гэтыя кнігі, пачніце іх чытаць... Можа, наша сустрэча з вамі невыпадковая, і гэтыя кнігі дапамогуць вам прыйсці да Бога...

«Давядзецца ўзяць, — падумала Ірэна. — Каб не пакрыўдзіць. Вунь якім агнём вочы загарэліся, калі пра Бога пачала гаварыць...»

— І тады вы зразумееце, што наша зямное жыццё — гэта толькі падрыхтоўка да жыцця вечнага, што многія грахі Бог здольны дараваць, калі вы толькі пакаецеся...

Госця пераступала з нагі на нагу. Яна адчувала сябе ніякавата. Усе пытанні былі нібыта вырашаныя, слухаць гэтыя наіўныя пропаведзі яна не мела ніякай ахвоты. Але павярнуцца і пайсці было не надта ветліва. Ірэна цярпліва паслухала яшчэ колькі хвілін, потым усё-такі наважылася перапыніць гэтую дзівачку:

— Ведаеце... Можа, я ўжо пайду? Мяне дома чакаюць. Вы ўсё-такі падумайце, чым я змагу вам аддзячыць? Нумар свайго тэлефона я вам пакінула. Можа, адзенне якое трэба? Я на рынку гандлюю, вам танней прадам. Вы падумайце, а потым мне пазвоніце. І мы з вамі пра ўсё дамовімся...

— Не, лепш вы прыходзьце... У нас у святыні службы штодня, рана і ўвечары. І святыня ў цэнтры, вельмі зручна... Я зараз патлумачу, дзе яна знаходзіцца...

* * *

Калі Ірэна выйшла з пад'езда, ужо сцямнела. Яна знясілена апусцілася на лаўку. І тут, калі яе ніхто не бачыў, нарэшце заплакала...

Сумачка ізноў была пры ёй. А ў ёй — і пашпарты, і грошы. І можна было смела ехаць дахаты, і не думаць, дзе пазычыць, і не трымцець ад страху, што сказаць мужу, ці як падмануць яго і не баяцца, што аблае апошнімі словамі. Але чаму ж тады на душы была адна толькі стомленасць і ніякай радасці? Усё склалася лепш, чым яна думала, чым магла сабе ўявіць. Рэдкая ўдача. Чаму ж тады яна не адчувала сябе пераможцай? Чужое жыццё, якое яна ўбачыла толькі што, хоць і не багатае, не раскошнае, на якое раней яна пазірала з адценнем лёгкай іроніі і пагарды, разварэдзіла душу. І мэбля ў прыхожай старая, і шпалеры, а нейкая цеплыня, нейкая асаблівая ўтульнасць, якой няма ў яе багатым доме...

Яна, гэтая жанчына, вядома, бедная. Але калі на яе паглядзець, дык яна выглядае шчаслівейшаю за яе, Ірэну. Чаму так?..

Ёй раптам захацелася дастаць з сумкі тыя кнігі, што падаравала гэта дзівачка, і тут жа хоць бы пагартаць іх. Здавалася, там яна знойдзе адказ на гэта вярэдлівае пытанне. Але на вуліцы ўжо было шара і яна адмахнулася ад гэтага нечакана-смешнага жадання.

«Усё гэта глупства, я проста стамілася за сённяшні дзень, гэтулькі панервавалася... Трэба ехаць дахаты, вячэру мужу і сыну рабіць, таблетку ад ціску выпіць і не задаваць самой сабе непатрэбных пытанняў. Шчасце — няшчасце... Хіба хвароба, старасць ці немач могуць быць шчасцем? Не, не могуць. Хто будзе спрачацца, што лепш сытая старасць, чым галодная? Ніхто не будзе...»

Ёй хацелася, каб хто-небудзь пацвердзіў правільнасць яе разважанняў, ці аспрэчыў іх. Нехта другі, не такі, як яна ці яе сяброўкі, а хто-небудзь іншы, больш сталы і мудры... Але хто мог аспрэчыць яе ў чужым мікрараёне, на ўскраіне горада, з якога да свайго дому дабірацца трэба было яшчэ цэлую гадзіну?



# ПРА ІХ ГЕРАІЗМ ДАВЕДАЎСЯ СВЕТ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на с. 8.*

У часе вайны будынкі былі забраны нямецкімі ўладамі. Пасля вайны там напачатку мясціўся дзіцячы дом, а пасля — дзіцячы садок. У 1989 г. навагрудскія парафіяне разам з сёстрамі прасілі мясцовыя ўлады вярнуць ім гэтыя памяшканні. Змаганне працягвалася досыць доўга, але парафіяне не адступалі. Трэба сказаць, што навагрудскія ўлады праявілі мудрасць і ўрэшце вярнулі сёстрам тое, што ім належала...

Для людзей старэйшага пакалення асабліва каштоўны і дарагі той мураваны домік, дзе жылі расстраляныя сёстры назарэтанкі. Напачатку гэта была плябанія. Потым Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі перадаў яе назарэтанкам пад кляштар.

Дарэчы, біскуп Зыгмунт Лазінскі быў вельмі моцна звязаны з сёстрамі назарэтанкамі. Па-першае, калі ён вучыўся ў Рыме з 1906 да 1909 года, ён быў капеланам сясцёр назарэтанак.



*Камень, устаноўлены на месцы ранейшай магілы сясцёр назарэтанак каля навагрудскай фары.*

Пасля таго, як бальшавіцкія ўлады выгналі яго з мінскай катэдры, ён жыў больш за тры гады ў Навагрудку, а калі стаў пінскім біскупам, паклапаціўся, каб сёстры назарэтанкі працавалі ў Навагрудку. І не памыліўся: яны працавалі вельмі добра. Таму гэты домік, былы кляштар, які быў перададзены ўладамі Навагрудка ў 90-я гады, можна лічыць рэліквіяй. Менавіта ў ім жылі сёстры, якіх Касцёл абвясціў благаслаўлёнымі. Іх жыццё сапраўды было дасканалае, бо яны вызначаліся не толькі любоўю да Бога, але таксама і любоўю да бліжняга.

## УРАЧЫСТАСЦЬ

На ўрачыстасць беатыфікацыі прыбылі жыхары Навагрудка, тыя людзі, хто яшчэ памятаў сясцёр, была моладзь, прадстаўнікі іншых парафій Гродзеншчыны. Увогуле каля 200 чалавек з Беларусі прысутнічала на беатыфікацыі, якая адбылася 5 сакавіка на плошчы святога Пятра ў Рыме. Беатыфікацыю правёў Святы Айцец Ян Павел II. Разам з сёстрамі былі беатыфікаваныя Слугі Божыя з Бразіліі, Філіпінаў, з іншых краінаў. Каля 45 тысяч пілігрымаў сабралася ў гэты дзень на пляцы святога Пятра.

Мяне вельмі ўзрушыў момант, калі ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч папрасіў аб беатыфікацыі 11 сясцёр назарэтанак. Тады я падумаў: вось і настаў той час, калі свет даведаўся аб гераізме навагрудскіх сясцёр. Гэта быў ціхі гераізм, які сфармаваўся ў святле вечнай лямпы, у шчырай малітве, сфармаваўся таму, што сёстры цвёрда захоўвалі статут свайго закону, служачы Богу і бліжнім. У жорсткі ваенны час, калі панавала смерць і такое ліхалецце, што кожны думаў аб тым, як выжыць, яны найперш дбалі пра іншых, дбалі пра тых, хто трапіў у бяду. Гэта вельмі важна было не толькі тады, але, напэўна, важна таксама і цяпер, у наш час, калі ў свеце пануюць эгаізм і разлік. Сёстры ўмелі ўзвысіцца над тым, што людское, і прыблізіцца да Бога. Яны добра і ясна разумелі тое, што Божае, і мелі сілу волі, каб да гэтага Божага дайсці, і таму, несумненна, вартыя хвалы алтара. Урачыстасці беатыфікацыі папярэднічала вельмі карпатлівая і адданая праца не аднаго дзесятка людзей не толькі ў нашай краіне, але таксама па ўсім свеце.

5 сакавіка ў Рыме было цёпла і сонечна, была вялікая радасць, якая свяцілася на тва-

рах пілігрымаў, што прыехалі сюды не толькі з Беларусі. Вядома, што ваенны лёс параскідаў навагрудчанаў па ўсёй зямлі. Таму на беатыфікацыю многія прыехалі з Польшчы, Амерыкі, Германіі, Францыі, Англіі. Святы Айцец у часе набажэнства адзначыў, што 11 сясцёр назарэтанак аддалі сваё жыццё ў горадзе, дзе нарадзіўся вялікі Адам Міцкевіч...

Пасля беатыфікацыі, вечарам, навагрудчане мелі шчасце сустрэцца з Папам. Гэта была незабыўная сустрэча. На памяць пра яе засталіся здымкі... Назаўтра, 6 сакавіка, у 9 гадзін раніцы адбылася Святая Імша, як падзяка за беатыфікацыю. Яна сабрала таксама некалькі тысяч чалавек у базыліцы святога Пятра. Гэтае набажэнства вёў ксёндз кардынал Эдмунд Шока, які быў прызначаны спецыяльным папскім дэлегатам на ўрачыстасць...

У той жа самы дзень у аулі Паўла VI адбылася аўдыенцыя Святога Айца з удзельнікамі ўрачыстасці з розных краінаў свету. Былі на ёй і пілігрымы з Беларусі. Дарэчы, на беатыфікацыю сястры Стэлы і 10 яе сяброўак сабралася хіба 1/5 частка сясцёр назарэтанак з розных куткоў свету. І былі яны, несумненна, вельмі шчаслівыя...

Вечарам 6 сакавіка адбылася яшчэ адна цікавая сустрэча ў Генеральным доме сясцёр назарэтанак у Рыме. Сабраліся на яе блізкія асобы, асабліва тыя, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы працэсу беатыфікацыі сястры Стэлы і 10 яе сяброўак. Былі там шчырыя размовы і вельмі шмат цікавых успамінаў.

Асаблівае ўражанне на мяне зрабіла сведчанне аднае асобы. Падчас гутаркі з-за стала ўстала 70-гадовая, невысокага росту жанчына, і ціхім голасам, але вельмі ўзрушана сказала: "Я адна з тых заложнікаў, якія былі вызваленыя дзякуючы сёстрам назарэтанкам". Яна расказала, што разам са сваім бацькам 16-гадоваю дзяўчынаю апынулася ў навагрудскай вязніцы і больш за месяц прабыла ў невядомасці. Перажыла разам з іншымі ўсю роспач трывожнага чакання. Успомніла, як аднойчы да акна вязніцы падышла яе маці і сказала: "Не бойцеся, сёстры назарэтанкі моляцца за вас". Яна тады яшчэ не ведала, што гэта за іх загінуць 11 сясцёр назарэтанак і што менавіта дзякуючы ім яна застанецца жыць...

Незабыўныя гэта былі дні і незабыўныя сустрэчы. Памяць пра іх надоўга застанецца ў сэрцы. Але самае важнае, што 5 сакавіка Юбілейнага 2000 Года Беларусь займела яшчэ 11 заступніцаў перад Богам: сёстры назарэтанкі, якія ў часе вайны не пашкадавалі сваіх жыццяў, ратуючы жыцці нашых землякоў, несумненна, апякуюцца нашай Айчынай і ўсімі намі таксама й сёння. Але ўжо ў Небе.




## У нумары



На першай старонкцы вокладкі: абраз **"Уваскрашэнне"**. Другая палова XVII ст. Брэсцкая вобл.

**Часопіс «Ave Maria»**

№ 4-5 (59-60) 2000

Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія

Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку Рэгістрацыйны № 225.

Рэдакцыйная рада.

Надрукавана ў друкарні «НЭСІ», 220141 г. Мінск, вул. Жодзінская, 18. Зак.          . Наклад 9 500 экз.

Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (172)26 90 92

Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.



Фарны касцёл у Навагрудку.



Беатыфікацыйны абраз Марыі Стэлы і 10 яе сябровак з супольнасці сясцёр назарэтанак. Мастак Ежы Кумаля. 1998 г.



Крыж на месцы расстрэлу 11 сясцёр назарэтанак.





Сустрэча сясцёр назарэтанак і пілігрымаў з Беларусі з Папам Янам Паўлам II пасля ўрачыстасці беатыфікацыі ў Рыме 5 сакавіка 2000 года.